© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 37 (2261) Год XLIV Беласток 12 верасня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Праблемы консульства з сядзібай

Мікола Ваўранюк

Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку працуе са снежня 1993 года. І ўсё не можа перабрацца з часовай сядзібы на пастаяннае жыхарства.

Сядзібу па вуліцы Варынскага рыхтаваў першы беларускі дыпламат у Беластоку, консул Ігар Хадасевіч. Пад прыезд генеральнага консула Міхася Слямнёва. З цягам часу, консульства мелася пераехаць з гэтай чатырохпакаёвай кватэры на першым паверсе старой камяніцы ў больш адпаведныя памяшканні.

— Апошнія два гады, па даручэнні нашага Міністэрства замежных спраў, кіраўніцтва консульства інтэнсіўна шукае новую сядзібу, — кажа віцэ-консул Павел Латушка. — Звярталіся мы да прэзідэнта горада, да ваяводы і, праз нашу амбасаду ў Варшаве, да польскага МЗС. Пакуль што, безвынікова.

Венская канвенцыя аб консульскіх зносінах не забавязвае міністэрства замежных спраў дадзенай краіны шукаць сядзібу дыпламатычнаму прадстаўніцтву іншай дзяржавы. Яно павінна толькі аказаць дапамогу ў такіх пошуках. У гэтым канкрэтным выпадку дапамога выглядала так, што МЗС Польшчы звярнуўся з просьбай да ўлад Беластока, каб тыя падшукалі адпаведны для консульства будынак.

— Адпаведны, гэта значыць, у цэнтры горада, плошчай пад 250-300 квадратных метраў, у добрым тэхнічным стане, — паясняе Павел Латушка. — Нам прапануюць або па-за цэнтрам, або 600-1000 метраў, або ў такім стане, што танней яго разбурыць і пабудаваць новы, чымсьці праводзіць рамонт.

Падляшскі ваявода Крыстына Лукашук адказала генеральнаму консулу Мікалаю Крэчку, што ніякай нерухомасці ў горадзе не мае, бо ўся ў кампетэнцыі гарадскіх самаўрадавых улад. Прэс-інфарматар прэзідэнта Беластока Лешак Калеснік кажа, што горад і так дапамог, аддаючы ў арэнду памяшканне на вуліцы Варынскага. І хаця прэзідэнт Рышард Тур рады зрабіць больш, лепшага не мае.

Разглядаюцца два варыянты выхаду з тупіка. Першы: консульства здыме памяшканне ад фірмы або прыватнай асобы (як польскае ў Гродне) і другі: паставіць свой будынак на выдзеленым горадам участку зямлі.

— Пасля інфармацыі ў Беластоцкім радыё і артыкулаў у мясцовай прэсе пра нашы клопаты, — расказвае Павел Латушка, — да нас звярталіся людзі з прапановамі. Аднак прапанаваныя будынкі не адпавядалі нашым патрэбам. Усе яны — далёка ад цэнтра. Будова сваёй сядзібы абышлася б вельмі дорага, а, як вядома, Беларусь, не надта багатая кра-

[працяг ☞ 2]



*Найбольш цікавыя новага школьнага будынка былі вучні.*

## Усе мы вельмі радуемся

Пачатак новага навучальнага 1999/2000 года святкаваўся ў Падставовай школе ў Дубічах-Царкоўных вельмі ўрачыста, паколькі ў гэты дзень адкрываўся новы школьны будынак.

Мерапрыемства ўдастоілі старшыня Рады павета Вольга Рыгаровіч, староста Уладзімір Пятрочук і пасол Сейма Ян Сычэўскі.

— Сёння ўвойдзеце ў светлыя і новыя залы, — заявіў войт Дубіцкай гміны вучням і настаўнікам ды падзякаваў усім людзям добрага сэрца, якія ўспамаглі будову і прыхільна ставіліся да фінансавых няўвязак, калі ў бюджэце гміны часова не хапала сродкаў.

Першакласнікі чакалі свайго першага дня ў новай школе з асаблівай напружанасцю. Ведалі, што прысягу трэба будзе даваць перад старэйшымі сябрамі, настаўнікамі і незнаёмымі людзьмі. Супакойвалі іх настаўніца Галіна Бількевіч і бацькі.

Найбольш цікавыя новага школьнага будынка былі вучні, якія раней вучыліся ў вельмі складаных умовах. Аднак трэба было пачакаць ажно адбудзецца асвячэнне памяшканняў і войт разам з дырэктарам школы і запрошанымі гасцямі перарэжуць бел-чырвоную стужку. Затым гаспадары запрасілі ўсярэдзіну і паказалі прыгожыя кабінеты і прасторныя калідоры.

— Раней у нас залы былі малыя, ацяпляліся кафельнымі печкамі. Распальваць агонь прыходзілася і днём, бо вучні мерзлі нават у верхняй вопратцы, — кажа настаўніца беларускай мовы Мар'я Казімярук, якая ўжо загадзя клапоціцца пра стварэнне кутка роднай мовы.

— Усе мы вельмі радуемся, што ўваходзім у новы будынак з вялікімі кабінетамі, раздзявальнямі і туалетамі. Аднак мы вельмі змучаныя, бо на працягу апошніх двух тыдняў усе настаўнікі рыхтавалі залы і аднаўлялі мэблю — адзначыла дырэктр школы Ніна Добаш-Карпюк.

У сямі залах, кабінеце для дашкольнага класа і святліцы вучобу распачне больш чым 130 вучняў, сярод якіх будзе 42 асобы з закрытай школы ў Старым Корніне і каля 10 асоб з Вітава. У школе працаваць будзе 16 настаўнікаў.

— Думаю, што амаль усе вучні будуць вучыцца беларускай мове, бо толькі адзінкі не вучыліся ў нас, Старым Корніне і Арэшкаве, — заявіла дырэктар.

Гісторыя пабудовы кароткая, але багатая ў падзеі. Першага чэрвеня 1998 года працаўнікі з Бельскага прадпрыемства „БЭП" увайшлі на будаўнічую пляцоўку і за пятнаццаць месяцаў узвялі будынак. Паколькі фінансавая дапамога Куратарыі асветы была сціплай, а сама інвестыцыя каштавала 1 мільён 300 тысяч злотых, апрача ўласных сродкаў улады гміны вымушаны былі ўзяць крэдыт і шукаць дадатковых спонсараў, у ліку якіх апынуліся дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы „Нікон" і „Фурнэль" з Гайнаўкі ды „Дворэк польскі" з Тафілаўцаў.

— Трэба будзе яшчэ пабудаваць спартыўную залу, ачышчальню сцёкаў і мадэрнізаваць стары мураваны будынак, у якім думаем яшчэ адчыніць гімназію, — плануе войт Анатоль Паўлоўскі. — На завяршэнне ўсіх будаўнічых прац спатрэбіцца каля 800 тысяч злотых. У рамках Кантракта для Белавежскай пушчы сёлета можам скарыстаць 950 тысяч злотых пад умовай, што столькі ж даложым уласных сродкаў. Аднак магчымасці нашы абмежаваныя і можам выдзеліць на будовы толькі 500 тысяч зл.

Падставовая школа ў Дубічах-Царкоўных — адзіная школа ў Дубіцкай гміне. Паводле дэмаграфічных даных у бліжэйшыя гады колькасць вучняў будзе яшчэ павелічацца.

Аляксей Мароз
*Фота аўтара*

## Цэны адпалохваюць жыльцоў

Цяпер пачалі мы будову блёка на 28 кватэр, але з-за недахопу фондаў давялося яе спыніць. Высокія цэны квадратнага метра жылля — 1500 зл. — адпалохваюць аматараў новай кватэры. Цяпер у Бельск прыбывае менш людзей з вёскі, а тыя, што перасяляюцца, выбіраюць больш атракцыйныя гарады, напрыклад, Беласток ці Варшаву, дзе лягчэй знайсці работу і дзе маладым лепшыя перспектывы ўладкавацца.

[жыллё ☞ 3]

## Блакітная рэспубліка

На вакзале ў Гародні мы даведаліся, што наш экскурсавод і заадно суарганізатар нашага падарожжа па Беларусі мастак Алесь Сураў не можа вырвацца з горада. У сярэдзіне тыдня чакала яго судовая справа, на якой меў вырашыцца лёс ягонай майстэрні.

[рэпартаж ☞ 4]

## Аблава на базары

20 жніўня польская паліцыя правяла на базары ў Варшаве аблаву на гандляроў з краін былога Савецкага Саюза і г.зв. Трэцяга Свету. Сярод затрыманых было 25 грамадзян Беларусі. Паліцыя адабрала ім тавары і пашпарты, нейкі час трымала ў закрытым памяшканні на ўскраіне Варшавы, а пасля вывезла на пагранічны пераход у Тарэспалі.

[скандал ☞ 4]

## Школа без гімбуса

У арлянскай гімназіі працуюць два паралельныя класы з 23 і 17 вучнямі. Школа не атрымала яшчэ гімбуса — мікрааўтобуса для давозу гімназістаў у школу. Дырэктар Яўгенія Васілюк мяркуе, што атрымаюць яго ў другім туры. Такім чынам гімназістаў з Дубіч-Царкоўных і Старога Корніна возіць арлянскі школьны аўтобус.

[гімназія ☞ 5]

## Жыццё і дзейнасць Лукаша Дзекуць-Малея

Абышоўшы ўсе могікі і засумаваўшы, што немагчымае вяртанне праваслаўнага квартала царкве ў Гданьску для новых пахаванняў, выходзячы, пры галоўнай алеі мой позірк раптам затрымаўся на адным помніку. Надпіс на ім выразна паведамляў: „Tu spoczywa w Bogu nasz ukochany Tatuś ś.p. Łukasz Dziekuć-Malej.... " — „Дзяўчыны, — кажу, — здаецца, выпадкова зрабілі мы адкрыццё на меру гісторыі Беларусі!"

[адкрыццё ☞ 8-9]

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Беларусь — беларусы

## Палітыка на „вшивых блохах"

Пасля затрымання 20 жніўня на варшаўскім Стадыёне Дзесяцігоддзя і наступнай дэпартацыі за мяжу 25 грамадзян Беларусі ці не ўпершыню беларускія ўлады сталі на бок сваіх суайчыннікаў. Але, здаецца, такія паводзіны звязаны не з жаданнем абараніць іх годнасць, а з мэтай адпомсціць польскаму боку за крытыку пануючага ў Беларусі рэжыму.

Мне асабіста не раз прыходзілася быць сведкам хамскага абыходжання польскіх паліцэйскіх, мытнікаў, памежнікаў з беларускімі грамадзянамі. Нельга сказаць, што гэта ўвайшло ў правіла. Ёсць і адваротныя прыклады — спагады і дапамогі людзям, якія вымушаны эканамічнымі абставінамі на радзіме, пад выглядам турыстаў, ездзіць за мяжу, каб гандлем зарабіць сабе на жыццё. Аднак, на жаль, не мала палякаў хутка забыліся, як дзесяць гадоў таму яны самі запаланілі ўсе еўрапейскія базары (у тым ліку большасць беларускіх), каб нешта прадаць, затым купіць і зноў прадаць. Занадта хутка яны палічылі сябе „вышэйшай еўрапейскай расай" і забылі сваю ж прымаўку „гісторыя колэм се точы". Таму можна даць веры дзяржаўным і незалежным беларускім СМІ, што распавядалі пра некалькі жахлівых жнівеньскіх дзён, якія прыйшлося перажыць 25 беларусам.

На сваю бяду гэтыя людзі апынуліся на варшаўскім базары падчас правядзення праверкі дакументаў у замежных грамадзян. Не з'яўляецца сакрэтам, што пераважная большасць беларусаў набывае турыстычную візу і ваўчар у Польшчу не для таго, каб пазнаёміцца з архітэктурнымі помнікамі ці прыроднымі прыгажосцямі краіны. Яны едуць дзеля свайго маленькага „бізнэсу". Дарэчы, шмат хто прывозіць у Польшчу валюту, за якую купляюць польскія тавары. Калі б польская паліцыя праводзіла праверкі дакументаў штодня па ўсіх базарах, дык у краіне не хапіла б стадыёнаў для размеркавання няшчасных пакупнікоў-гандляроў.

Затрыманыя 20 жніўня беларусы ў ноч з 22 на 23 жніўня былі дэпартаваны з Польшчы. Ім на некалькі гадоў забаронена наведваць краіну за тое, што займаліся не тым, чым былі павінны, згодна з візай, за тое, што знаходзіліся на тэрыторыі Польшчы больш вызначанага ў ваўчары тэрміну, за адсутнасць патрабуемай польскімі правіламі колькасці грошай. (Некаторыя дэпартаваныя сцвярджалі пасля, што грошы ў іх былі, але паліцыя іх проста забрала).

Па законе ўсё выглядае правільна. Але ці была неабходнасць адносіцца да людзей, як да небяспечных злачынцаў, прыніжаць іх чалавечую годнасць? Магчыма, прадстаўнікі польскіх праваахоўчых органаў палічылі, што так можна абыходзіцца з людзьмі, таму, што на іх радзіме ўлады адносяцца да іх яшчэ горш?

Так, Аляксандар Лукашэнка калісьці назваў прыватных гандляроў „вшивыми блохами". Іх бязлітасна штрафуюць падаткавыя інспектары. На базарах па любой, нават зусім нязначнай падставе, канфіскуецца тавар. Базарныя гандляры адны з самых бяспраўных катэгорый насельніцтва ў Беларусі. Усе яны, каб выжыць, вымушаны парушаць драконаўскія законы.

Таму дзіўнай, на першы погляд, падаецца рэакцыя на падзеі ў Варшаве афіцыйных беларускіх улад. Пасольства Беларусі ў Польшчы заявіла пратэст. Беларускі бок лічыць, што была парушана Венская канвенцыя пра консульскія зносіны 1963 года, артыкулы 38 Консульскай канвенцыі паміж Беларуссю і Польшчай ад 1992 года, дамова паміж СССР і ПНР ад 1979 года пра бязвізавыя паездкі грамадзян, якая дзейнічае да гэтага часу. Здаецца, беларускія ўлады толькі чакалі падобнага выпадку. Гэта дало добрую падставу дзяржаўным СМІ распачаць антыпольскую прапаганду. Зараз на любую заўвагу польскага боку пра парушэнне правоў чалавека на Беларусі можна будзе адказаць успамінамі „про славутую польскую демократию" на Стадыёне Дзесяцігоддзя.

**Зміцер Кісель**

*Чытайце яшчэ: „Аблава на базары" — стар. 4.*

## Лукашэнка — легітымны... алімпіец

Як вядома, з 20 ліпеня краіны Еўрапейскаага Саюза, ЗША і значная колькасць грамадзян Беларусі не прызнаюць легітымнасць прэзідэнцкай улады Аляксандра Лукашэнкі. Але за палітычнымі баталіямі неяк забылася, што ў яго ёсць яшчэ адна, цалкам легітымная, прэзідэнцкая пасада. Некалькі гадоў таму, калі Лукашэнку перасталі запрашаць у цывілізаваныя краіны, ён вырашыў стаць прэзідэнтам Нацыянальнага Алімпійскага Камітэта. Дзякуючы гэтаму ён можа ездзіць па ўсім свеце. Так, у якасці прэзідэнта НАК Лукашэнка пабываў у Японіі падчас Алімпіяды ў Нагана. (Праўда, кажуць, што там не абышлося без канфузу. Быццам бы, калі Рыгоравіча не пусцілі пакатацца па алімпійскай лыжні, ён, разам са сваёй адміністрацыяй, выбраў для лыжнай прагулкі першую лепшую прысыпаную снегам паляну, якая аказалася рысавымі палеткамі. Разгубленыя японцы не ведалі, што рабіць — крыўдаваць ці смяяцца — аўт.)

Зараз, калі як палітыку шлях за мяжу (акрамя на Усход) прэзідэнту НАК поўнасцю закрыты, ён лічыць спорт адным з галоўных накірункаў сваёй дзейнасці. У інтэрв'ю расейскай газеце „Советский спорт", якое 26 жніўня было перадрукавана мінскай газетай „Словянский набат", Лукашэнка кажа: „Знаете, возможно, спорт — это основная дипломатическая структура в любом государстве". Праўда яго засмучае, што каля спорту кормяцца розная кшталту прайдзісветы. Безумоўна, „особенно это характерно для Запада". Прэзідэнт беларускага НАК сцвярджае, што на міжнародных спаборніцтвах суддзі несправядліва адносяцца да спартсменаў з былога СССР. У размове з карэспандэнтам „Советского спорта" ён распавядае, як, на яго думку, на апошнім чэмпіянаце свету па біятлону не далі перамагчы „советским" спартсменам: „Это было на моих глазах. На втором этапе на абгонке плохо отстреляли немцы, плохо отстреляли все капиталистические государства. Впереди оказались белорусы, следующими россияне, следующими латыши, то есть бывшие советские республики. И что же? В этой ситуации было принято решение прекратить гонку". (На самай справе гонка была спынена таму, што надвор'е не дазволіла не працягваць. Для спаборніцтваў, якія адбываюцца на адкрытым паветры, гэта нармальная практыка. Прынамсі пра такія спартыўныя правілы прэзідэнт НАК павінен быў ведаць — аўт.)

Суцяшае Лукашэнку, што „... в светлой моей стране Беларуси повальной мафиозности и коррупциозности никогда в спорте не было". Аднак, гаворачы пра адну з прычын, па якіх былы прэзідэнт краіны вырашыў узначаліць НАК, ён сцвярджае: „... у нас вокруг спорта развелась в свое время уйма жуликов разного масштаба, из-за которых мы утратили кусок национального достояния. НАК, Министерство спорта, федерации представляли себя эдакими сепараторами, отмывавшими народные деньги. (...) Я понимал, что, если лично не наведу здесь порядок, никто этого не сделает".

Пра вынікі барацьбы Аляксандра Лукашэнкі з карупцыяй у спорце пакуль нічога не вядома, а вось сам беларускі спорт яму перамагчы ўдалося. Пра стан беларускага футбола „Ніва" ўжо пісала. Не лепшая сітуацыя і ў іншых спартыўных галінах.

Час станаўлення спартсменаў незалежнай Беларусі прыпаў на пачатак 90-х гадоў. Вяршыні сваіх магчымасцей яны дасягнулі ў першыя гады прэзідэнцтва Лукашэнкі, што апошні чамусьці палічыў сваёй заслугай. Аднак пры яго кіраўніцтве вартай замены беларускім спартыўным „зоркам" падрыхтавана не было, а самі „зоркі" ўжо састарэлі для вялікага спорту. Калісьці свет здзіўлялі сваім майстэрствам беларускія лёгкаатлеты. На апошнім чэмпіянаце ў Севільі беларусы выступілі безвынікова. Некалькі гадоў таму не было ў свеце асілкаў роўных гродзенскаму цяжкаатлету Курловічу. Але ад поспехаў беларускіх штангістаў засталіся адны ўспаміны.

Усе беларускія заўзятары з захапленнем сачылі за бліскучай кар'ерай беларускіх хакеістаў. За некалькі гадоў з нікому невядомай каманды яны здолелі прабіцца ў вышэйшую лігу. Гэты поспех і папулярнасць хакея ў Беларусі натхнілі Аляксандра Лукашэку на асабісты ўдзел у пагоні за шайбай. Беларускае тэлебачанне не раз паказвала, як ён, апрануўшы форму нацыянальнай хакейнай каманды, няўстойліва трымаючыся на каньках, абыгрывае прафесійных хакеістаў. У вышэйзгаданым інтэрв'ю Лукашэнка прызнаецца: „На первом месте у меня, конечно, хоккей — в понедельник, среду и суботу". Аднак, нават, калі на будучым чэмпіянаце свету ён сам выйдзе на лядовую пляцоўку, гэта не дапаможа беларускім хакеістам. Спартыўныя аглядальнікі лічаць, што ўзрост не дазволіць нашай камандзе годна супрацьстаяць лепшым хакейным камандам свету.

Нешта не атрымліваецца ў Лукашэнкі прэзідэнцтва. Жартаўнікі кажуць: „Не дай Бог Рыгоравіч захоча стаць прэзідэнтам аматараў піва ці беларускіх дзяўчат. Тады ў гэтай краіне больш жыць будзе немагчыма".

**Зміцер Кісель**

## Праблемы консульства з сядзібай

[1 ☞ працяг]

іна. Мы разлічвалі на большую дапамогу польскага боку, згодна з міжнароднымі нормамі і добрасуседскімі адносінамі. Можа Беласток замалы горад, каб запрапанаваць Генеральнаму консульству адпаведныя ўмовы працы. Але, з другога боку, мы тут адзінае дыпламатычнае прадстаўніцтва і сваёй прысутнасцю робім гонар гораду. Я ведаю, што добраўладкаванне польскіх консульстваў у Брэсце і Гродне не абышлося без дапамогі ўлад гэтых гарадоў. У апошні час консульскі аддзел польскай амбасады ў Мінску пераехаў у добры, адрамантаваны будынак. Тут таксама дапамаглі гарадскія ўлады. Мы спадзяваліся падобнага.

— Пра парытэт у гэтай справе беларускім дыпламатам лепш не згадваць, — лічыць прэс-інфарматар МЗС Польшчы Павел Дабравольскі. — Хопіць нагадаць мінулагодні скандал з рэзідэнцыямі амбасадараў у Мінску.

* * *

Гісторыя з сядзібай беларускага консульства ў Беластоку пацвярджае прымаўку, што часовае бывае часта найбольш трывалым. Працаўнікі консульства могуць суцяшаць сябе тым, што перад іх дзвярыма, на вузкай вуліцы Варынскага, нават не можна сарганізаваць вялікай дэманстрацыі. А калі ўжо хто і прыйдзе сюды пагарлапаніць, то мірная абстаноўка — на балконе другога паверха, якраз над сцягам консульства, часта пры добрым надвор'і сушыцца бялізна — суцішае яго першапачатковы ваяўнічы настрой.

**Мікола Ваўранюк**

## 10 долараў адной купюрай

З 6 верасня Нацыянальны банк Беларусі ўводзіць у абарачэнне новую грашовую купюру вартасцю 5 мільёнаў рублёў.

Вонкавы бок разліковага білета размаляваны ў фіялетавы, цёмна-сіні і бэзавы колеры. На ім размешчана выява мінскага Палацу спорта, які намаляваны тоўстым слоем фарбы. Гэта дазволіць успрымаць яго навобмацак. Цёмна-фіялетавы і бэзавы — асноўныя колеры адваротнага боку. На ім выява спартыўнага коплексу „Раўбічы". Вадзяны знак новай купюры — фігура біятланіста.

Гэта першы разліковы білет Нацыянальнага банка Беларусі такой вартасці. За яго пакуль можна набыць аж 10 долараў ЗША, бо рэальны кошт аднаго долара на пачатку верасня ў сярэднім складаў 500 000 беларускіх рублёў.

**(зк)**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Неабходная разбудова каналізацыі


*Біялагічныя рэактары ачышчальні сцёкаў.*

— У Гайнаўцы 23 кіламетры каналізацыі, а каб стала яна даступная ўсім жыхарам, трэба яшчэ палажыць трубы даўжынёю ў 35-40 кіламетраў. У 1997 годзе пачала працаваць ачышчальня сцёкаў, якой магутнасць выкарыстоўваецца толькі ў 50%. Патрэбная хуткая разбудова каналізацыі, — кажа старшыня Гайнаўскага прадпрыемства вадаправодаў і каналізацыі Юрый Алексяюк. — На будову каналізацыйнай сеткі адведзена ў гэтым годзе 480 тыс. зл., а інвестыцыі рэалізаваць будуць розныя фірмы. Хочам, каб і наша прадпрыемства актыўна ўключылася ў будаўнічыя працы.

**Новая ачышчальня сцёкаў**

Усе прамысловыя і бытавыя сцёкі з тэрыторыі Гайнаўкі плывуць на месца старой ачышчальні і адтуль перапампоўваюцца ў супрацьлеглую частку горада, дзе непадалёк ад лесу пабудаваны комплекс спецыяльных абсталяванняў для іх ачышчэння. Старшыня Юрый Алексяюк пачынае знаёміць з працай ачышчальні ад яе фінальнага месца, адкуль у напрамку ракі Лясной выплывае ўжо чыстая, празрыстая і без непрыемнага паху вада, а пасля для кантрасту паказвае выгляд сцёкаў, якія плывуць сюды з горада. Гайнаўская ачышчальня — адна з самых сучасных не толькі ў рэгіёне, але і ў Польшчы. Спачатку ўсе цвёрдыя рэчывы, пясок і ўсялякае масла аддзяляюцца ў абсталяванні „ратамат", а рэшта вадкасці трапляе ў біялагічныя рэактары, адкуль ачышчаная ўжо вада плыве ў спецыяльныя сажалкі, дзе існуе яшчэ магчымасць ачышчаць яе далей. З гайнаўскіх рэактараў выплывае настолькі чыстая вада, што не патрабуе дадатковай апрацоўкі. Нагляд за ходам працы ўсяго абсталявання вядзе камп'ютэр, а людзі толькі правяраюць яго працу. Паколькі магутная вытворчасць ачышчальні выкарыстоўваецца толькі ў палове (каля 3 тысяч м$^3$ у суткі), найчасцей прынамсі адзін рэактар не працуе.

— Клопаты ў Гайнаўцы пачынаюцца тады, калі ідзе праліўны дождж, бо па вуліцах Баторыя, 11 Лістапада і Грунвальдскай каналізацыя адначасна адводзіць і сцёкі, і дажджавую ваду. Бывае, што нават і 12 тысяч кубаметраў сцёкаў трэба ачысціць за суткі. Паколькі яны разбаўлены вадой, мы перапрацоўваем працэс працы рэактараў і намнога больш ачышчанай вады пускаем у рэчку. Цяжка будзе ажыццявіць праект перабудовы каналізацыі, паколькі трубы знаходзяцца непасрэдна пад асфальтам.

**Інвестыцыі**

Зараз у горадзе ў цэлых кварталах няма яшчэ каналізацыі. Спачатку неабходна пабудаваць галоўныя калектары, пазней падключаць да іх каналізацыйную сетку паасобных вуліц. У гэтым годзе запланавана будова двух вялікіх калектараў у напрамку вуліц Вжасовай і Пілсудскага. Дзеля гэтага мяркуецца выкарыстаць бюджэтныя сродкі ў сувязі з пашырэннем Белавежскага нацыянальнага парку. Аднак, каб скарыстаць гэтыя сродкі, патрэбны ўласны 50-працэнтны ўклад. Незалежна ад галоўных інвестыцый вядзецца ў горадзе разбудова каналізацыйнай сеткі на паасобных вуліцах.

— Наша прадпрыемства сур'ёзна рыхтуецца да інвестыцый у горадзе. Купілі мы новы экскаватар, грузавік-самазвал, прынялі на працу некалькі новых асоб. Аднак, каб гарадскія ўлады дарučылі нам будаваць калектары, трэба перамагчы на таргах, — гаворыць Юрый Алексяюк. — У будучыні хочам працаваць не толькі на тэрыторыі горада, але таксама ў суседніх гмінах. Будзем прапанаваць для меншых ачышчальняў сцёкаў свой тэхнічны і санітарны нагляд, паколькі ёсць у нас патрэбныя спецыялісты і адпаведная апаратура.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Бельскія інвестыцыі

У Бельску-Падляшскім на інвестыцыі ў гарадскім бюджэце адведзена 3 456 500 злотых. У сёлетні інвестыцыйны план былі занесены работы, якія пачаліся ў мінулым годзе. Адна з іх — мадэрнізацыя вуліцы Жвіркі і Вігуры, якую сумай 200 тыс. зл. падтрымае Павятовая ўправа. Сёлета будзе таксама закончана мадэрнізацыя вуліц Ягелонскай, Сікорскага, Абвадовай і Клюка. Каб правесці каналізацыю рамантаваных вуліц, Управе горада трэба было ўзяць доўгатэрміновы крэдыт у Банку аховы асяроддзя.

У чэрвені фірма „Польбуд" пачала рамонт даху будынка Гарадской управы. Старая чарапіца была заменена дахавой бляхай цаглянага колеру. Завяршаюцца работы пры будове стаянкі для аўтамабіляў пры вул. Казаноўскага і каналізацыі вуліцы Баторыя. Пры Студзіводскай вуліцы закончылася ўжо пракладка тратуараў і вядзецца аснашчэнне водаправоднай сеткай і электраэнергіяй участкаў пад жыллёвае будаўніцтва.

Сёлета былі аб'яўлены таргі на выбар выканаўцы мадэрнізацыі вул. Крынічнай, на якіх перамагло прадпрыемства „Экаінсбуд". 163 100 зл. у гарадскім бюджэце адведзена на падтрымку грамадскіх камітэтаў, якія выступілі з ініцыятывай прокласці водаправоды і каналізацыю на сваіх вуліцах.

У Двары Смульскіх вядуцца рэстаўрацыйныя работы. У іх выніку ў архітэктурным помніку будзе аднаўлены дах, памаляваныя шалёўка і сталярка.

Улады горада не вырашылі яшчэ, у які спосаб будзе добраўпарадкаваная высахшая сажалка ў гарадскім парку. Паводле розных варыянтаў у гэтым месцы можна было б зрабіць пляц гульняў для дзяцей, пасадзіць кветкі або паставіць фантан. Пакуль што адпачываючыя ў парку гараджане бачаць толькі глыбокую яму.


*Будынак Гарадской управы з аднаўленым дахам.*

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Цэны адпалохваюць жыльцоў

**Са старшынёю Управы Жыллёвага кааператыва ў Бельску-Падляшскім Янам КАНДРАЦЮКОМ размаўляе Міхал Мінцэвіч**

***— Ваш кааператыў самы вялікі ў раёне. Ахарактарызуйце яго ў некалькіх словах.***

— У нашым кааператыве больш за 3850 кватэр, у якіх жыве 12 тысяч чалавек. У адміністрацыі працуе 23 чыноўнікаў і 47 рабочых, якія сочаць за тэхнічным і санітарным станам у пасёлках. Летам у рамонтнікаў працы многа, а зімою выкарыстоўваюцца яны неэфектыўна. Таму думаем правесці рэарганізацыю з мэтай змяншэння выдаткаў. Прыбіральшчыкаў трымаем неабходную колькасць.

***— Ці вядзецца ў вашым кааператыве мадэрнізацыя жылых будынкаў?***

— Абшыўка сцен жылых блёкаў тэрмаізаляцыйнымі матэрыяламі сёння з-за складанага фінансавага становішча на практыцы немагчымая. Кошт цеплаізаляцыі аднаго будынка складае 9 млн. зл., а мы за год ад нашых кватарантаў у рамонтны фонд можам сабраць толькі 1 млн. зл. Раней, калі мы карысталіся 80% дзяржаўнай датацыяй, ізалявалі 1-2 будынкі ў год. 25% гэтага крэдыту нам анулявалі, калі мы даказалі, што ў выніку такога рамонту сапраўды зменшыліся страты цяпла. Каб гэтага дасягнуць, трэба яшчэ дадаткова памяняць вокны і г.д.

***— Ці ў кааператыўных кватэрах устанаўліваліся лічыльнікі вады?***

— Так, амаль ува ўсіх кватэрах жыхары ўстанавілі лічыльнікі вады на свой кошт, а пасля чатырох гадоў за іх правільнае дзеянне адказвае ўжо кааператыў. У 20% кватэр устаноўлены лічыльнікі скарыстанага цяпла. Сёлета такія лічыльнікі будуць устаноўлены ў адной трэцяй часткі астатніх будынкаў. Робім гэта на свой кошт. Прадбачваем, што праз два гады ўсе кватэры будзем разлічаць з індывідуальнага спажыцця вады і цяпла.

***— Ці маглі б Вы назваць узорныя пасёлкі?***

— Цяжка вылучыць такія. Самыя старыя пасёлкі, якія будаваліся ў 1960-я гады, надта занядбаныя, а новыя — знішчаюцца вандаламі на працягу года-двух з моманту засялення.

***— Ці жыхары блёкаў рэгулярна плацяць кватрплату?***

— Па-рознаму яно бывае. Не плацяць самыя бедныя людзі, якім грошай хапае толькі на харчаванне. Агулам 20% жыльцоў не плацяць рэгулярна. Пасля двухкратнай задоўжанасці выклікаем даўжніка на папераджальную размову. Маламаёмныя маюць магчымасць старацца атрымаць сацыяльны кватэрны дадатак і тады застаецца ім даплачваць невялікую суму. Аднак многія не афармляюць дакументаў на сацыяльную дапамогу і пападаюць у задоўжанасць. Маем 2% жыльцоў з задоўжанасцю ў 2-3 тыс. зл., якія не ў змозе самастойна заплаціць такую суму і тады пагражае ім прымусовае высяленне.

***— Многа сем'яў высяляеце?***

— У гэтым годзе мы направілі 10 спраў аб прымусовым высяленні, у тым ліку ў чатырох сем'ях ёсць малалетнія дзеці. Да гэтай пары мы не высялялі сем'яў з дзяцьмі. У выпадку, калі няма магчымасці перасяліць сям'ю ў сацыяльны будынак, дык дзяцей трэба перадаць на часовую пабыўку ў Дом дзіцяці. Да гэтай пары адбылося тры высяленні самотных асоб, якія былі свядомыя свайго становішча. Чарговыя тры высяленні сем'яў з дзецьмі не маюць яшчэ назначанага тэрміну. Судовы выканаўца шукае месца дзецям.

***— Ці кааператыў будуе новыя блёкі?***

— Цяпер пачалі мы будову блёка на 28 кватэр на пасёлку „Поўнач" — на рагу вуліц Аградовай і Міцкевіча, але з-за недахопу фондаў давялося яе спыніць. Высокія цэны квадратнага метра жылля — 1500 зл. — адпалохваюць аматараў новай кватэры. Цяпер у горад прыбывае менш людзей з вёскі, а тыя, што перасяляюцца, выбіраюць больш атракцыйныя гарады, напрыклад, Беласток ці Варшаву, дзе лягчэй знайсці работу маладым і дзе лепшыя перспектывы ўладкавацца.

***— Дзякую за размову.***



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Блакітная рэспубліка




**1. Мяжа**

Была шостая раніцы, калі ў кампаніі спадарожнікаў з Гданьска завіталі мы ў Рэспубліку Беларусь. У цягніку Кузьніца-Беластоцкая — Гродна пахла гнілой бульбай. Рускамоўныя маладзёны-кантрабандысты ў вагоне для некурачых зяўзята смалілі цыгарэты ды перакідаліся манатоннай лаянкай. Перасяканню польска-беларускай мяжы спадарожнічае атмасфера страху. Тут як нідзе адчуваецца важнасць чыноўніка.

Мы таксама баяліся беларускіх пагранічнікаў. У нашай калектыўнай візе была дапушчана памылка. Ля двух прозвішчаў былі пераблытаны нумары пашпартоў. На дадатак адзіны сярод кампаніі хлопец быў пазначаны ў сваім пашпарце як жанчына!

Ды і паводзіны нашы маглі правакаваць *жалезных* чыноўнікаў. Замест маліцца і з прыніжанасцю (як паводзяць сябе кантрабандысты) чакаць сваёй чаргі, мы здарова рагаталі. Перш за ўсё з беларускай візы. Такога цуда цяжка дзе знайсці. Герб дзяржавы ўведзены Аляксандрам Лукашэнкам прыклееены быццам марка на лісце. Хопіць адклеіць гэты значок, каб пад сподам пабачыць гістарычную сімволіку — Пагоню. Згледзеўшы такое, мімавольна думаеш пра часовасць абавязваючай сімволікі. Не менш забаўна гучаць словы мытніка, калі кожнага з асобна распытвае: *Ці ёсць наркотыкі?* Цікава, ці ў гісторыі мытнага агляду нехта дабрадушна прызнаўся: *Так, у мяне ёсць наркотыкі!..*

Раней трэба было яшчэ запоўніць два экземпляры мытнай дэкларацыі, адзначыць колькасць багажу, акрэсліць яго прызначэнне, распісаць падрабязна колькасць везенай валюты, заявіць, што не ўдзельнічаем у кантрабандзе недазволеных медыкаментаў і наркотыкаў. Добрую гадзіну запаўнялі мы бланкі, паказвалі мытнікам змесціва рукзакоў, тлумачылі мэту свайго падарожжа. Беларускія мытнікі і пагранічнікі — дзіўныя чыноўнікі. Калі загаворыш да такога па-беларуску, чакай усялякага. Хто насцярожыцца і стане яшчэ больш афіцыйны і патрабавальны. Хто, пачуўшы мілагучныя гукі роднай мовы, расслабіцца ды пачне ўсміхацца.

Наш пагранічнік адказваў на беларуска-рускай *трасянцы*, два разы расслабіўся (два разы заўсміхаўся) ды пажадаў нам шчаслівай дарогі.



*На беразе Нёмана процьма аматараў рыбы.*

Дзве гадзіны трывала наша фарсіраванне жалезнага кардону. Як пасля паказалася, сустрэла нас самае хуткае і спраўнае перасяканне польска-беларускай мяжы.

**2. Першая сустрэча з Гародняй**

Складаныя праблемы — асаблівая прыкмета Рэспублікі Беларусь.

На вакзале ў Гародні мы даведаліся, што наш экскурсавод і заадно суарганізатар падарожжа мастак Алесь Сураў не можа вырвацца з горада. У сярэдзіне тыдня чакала яго судовая справа, на якой меў вырашыцца лёс ягонай майстэрні. Таму зусім выпадкова нашым гідам і шафёрам у адной асобе стаў прыватны прадпрымальнік з Гародні Алесь Лобан. Пасля кароткага знаёмства паказалася, што шчасце нам спрыяе. Мы трапілі ў добрыя рукі. Наш новы знаёмы, па адукацыі лекар-акуліст, стройны мужчына і светлы (свядомы) беларус з палітычнымі амбіцыямі.

Кожны, хто наведае Беларусь, зразумее, як каштоўныя тут рада і дапамога сяброў, сваякоў, знаёмых. Першай складанасцю, якую нельга без іх вырашыць, з'яўляецца абмен валюты. У беларускія банкі пасылаюць адно найгоршых ворагаў. Проста, афіцыйны дзяржаўны курс долара ў два разы меншы, як на чорным рынку. Пра курс долара на чорным рынку інфармуюць газеты, сродкі масавай інфармацыі. Але грамадзянам Беларусі забаронена карыстацца валютай імперыялістаў. На рынку, дзе звычайна плаціцца доларамі, неабходная крайняя асцярожнасць. На кожным кроку аж кішыць ад сышчыкаў. За нелегальны абарот валютай пагражае не толькі канфіскацыя валюты, але і судовая справа.

У Беларусі жыццё таннае. Дзень можна пражыць за адзін долар. Спачатку мяняем, зразумела, з дапамогай знаёмых, па 5 долараў. У руках куча грошай. Мы — мільянеры. За долар нам плацяць 480 тысяч беларускіх рублёў. Праз тыдзень долар падаражэе яшчэ на сто тысяч.

Перад далёкай дарогай рашаем папіць кавы і прыняць душ. Таму карыстаемся запрашэннем Алеся ў яго кватэру. Наш новы сябар жыве ў мікрараёне Вішнева. Большасць жыхароў яго блока гэта перасяленцы з чарнобыльскай зоны. У пад'ездах разносіцца пах занядбанасці. Дом пабудаваны ў пачатку 90-х гадоў, хаця паводле выгляду ацэньваем яго на 70-ыя.

— Аплаты за кватэры ў нас танныя, — кажа гаспадар. За свае прасторнае памяшканне 60 м² плаціць паўтара долара, разам з аплатай за ваду і газ. Дадатковы атракцыён жыцця ў Гародні — смачная вада. Можна ёю жыўём запівацца проста з крана.

— Калі да нас прыязджаюць масквічы, яны адчуваюць сябе тут як на курорце, — кажа Алесь. — Захвальваюць ваду, зялёную прыроду, свежае паветра.

Сапраўды, у Гродне пануе спецыфічны клімат. Таму рашаем наведаць горад яшчэ раз, у зваротнай дарозе. Перад намі — 1300 кіламетраў, 7 дзён вандроўкі па беларускай правінцыі, гістарычныя мясціны, зруйнаваныя замкі, азёры, сустрэчы з закаранелымі абаронцамі беларускага гонару, здарэнні на памежжы зброду і цуду!

***(праця́г будзе)***

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



*Спартыўны касцюм — сучасны беларускі нацыянальны ўбор.*

# Аблава на базары

Беларускае тэлебачанне шмат увагі прысвяціла аблаве, якую 20 жніўня польская паліцыя правяла на базары ў Варшаве на гандляроў з краін былога Савецкага Саюза і г.зв. Трэцяга Свету. Сярод затрыманых было 25 грамадзян Беларусі. Паліцыя адабрала ў іх тавары і пашпарты, нейкі час трымала ў закрытым памяшканні на ўскраіне Варшавы, а пасля вывезла на пагранічны пераход у Тарэспалі. Скандал пачаўся тады, калі аднаму з дэпартаваных турыстаў удалося пазваніць у беларускае пасольства ў Польшчы. На месца прыехаў консул Павел Латушка з Беластока і высветлілася, што палякі парушылі шмат міжнародных пагадненняў, арганізуючы аблаву на зусім выпадковых людзей. Беларускае пасольства прад'явіла афіцыйны г.зв. дыпламатычны пратэст, на які магчыма адкажа, а можа і не адкажа Міністэрства замежных спраў Польшчы. Астаецца аднак праблема звычайных людзей, якіх паліцыянты патрактавалі як злачынцаў.

Беларускае тэлебачанне, зразумела, не дзеля замацавання польска-беларускага сяброўства, паказвала выгнаных з Польшчы турыстаў. Некаторыя, як вынікала з пячатак у пашпартах, упершыню наведалі Польшчу і кляліся, што былі тут апошні раз. Нехта прыехаў з доларамі купіць нешта з вопраткі для сям'і, а можа і дзеля гандлю, тым не менш вобраз Польшчы і палякаў пасля выказванняў гэтых людзей склаўся вельмі пануры.

Аблава ў Варшаве — гэта толькі адна з акцый праваахоўных органаў, у якой пацярпелі беларусы. На беластоцкіх базарах падобны спектакль з удзелам паліцыі, гарадской стражы і гандляроў з Беларусі адбываецца амаль пастаянна. Адсутнасць журналістаў і факт нелегальнага гандлю цыгарэтамі і алкаголем спрыяе наогул безгалосаму змаганню паліцыйных сіл з турыстамі з Беларусі, якія стараюцца неяк перажываць ва ўмовах лукашэнкаўскай эканомікі.

Польскія гандляры вельмі ахвотна бачаць гасцей з усходу, якія купляюць у тутэйшых крамах тавары, дарэчы, наогул найгоршай якасці. Калі, аднак, на базарах прапануецца напалову таннейшыя, чым мясцовыя, прадукты з Беларусі, падымаецца крык пра несумленную канкурэнцыю. Для найбяднейшых палякаў гэтая „несумленная канкурэнцыя" дае шанц набыць харчовыя прадукты, вопратку і шмат іншых тавараў штодзённага карыстання.

Ад некалькіх гадоў палітыка так Польшчы, як і Беларусі, не спрыяе развіццю прыватнага гандлю паміж грамадзянамі абедзвюх краін. Па палітычных прычынах парваліся эканамічныя кантакты на найвышэйшым узроўні. Інтэграцыя Польшчы з Заходняй Еўропай яшчэ больш будзе ўшчыльняць мяжу з Беларуссю. Гэта не толькі віна пануючага ў Мінску рэжыму, але таксама стаўлення Польшчы да беларускага пытання. Нямеччына, напрыклад, не адабраючы лукашызму як палітычнай філасофіі і практыкі, развівае з Беларуссю эканамічныя кантакты. Палітычная сітуацыя можа радыкальна памяняцца, але гаспадарчыя адносіны будуюцца доўгімі гадамі. Аблавы на базарах паказваюць, што гандаль з Усходам не разглядаецца ў Польшчы ў якасці перспектыўнай галіны гаспадаркі. Чалавек, які заяўляе, што не хоча больш ехаць у Польшчу, праўдападобна не будзе працаваць, напрыклад, у польска-беларускай гандлёвай суполцы.

**Яўген Міраповіч**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Сустрэчы ў час канікулаў


Зінаіда Гаўрылюк з юнымі слухачамі.

Вучні, якія штодзень спатыкаліся ў бібліятэцы Гміннага асяродка культуры ў Дубічах-Царкоўных, у сераду 25 жніўня сустрэліся з Зінай Гаўрылюк з Дубіч, якая расказвала пра вясковыя абрады. Такія сустрэчы на канікулах Гмінная бібліятэка ў Дубічах-Царкоўных арганізуе штогод.

— Планавалі мы, што ў гэтым годзе вучні будуць прыходзіць на дзве гадзіны, але малодшыя пачалі паяўляцца ўжо ў восем гадзін раніцы, а некаторыя разыходзіліся ў восем гадзін вечара, калі закрываем бібліятэку. Людзі ў нас жывуць бядней чым у гарадах і дзеці рэдка выязджаюць куды-небудзь на адпачынак, а ў нас могуць прыемна правесці час. Бацькі таксама спакайнейшыя, бо ёсць нагляд за малечамі, — кажа Міраслава Семянюк-Мараўская, якая разам з Кацярынай Дэмянюк арганізавалі заняткі. — Прыходзіла да нас ад 10 да 20 асоб, сярод якіх былі дзеці з Гайнаўкі, якія адпачывалі ў сваіх бабуль. Арганізавалі мы ім розныя конкурсы з узнагародамі.

У час канікулаў праведзены былі мастацкія конкурсы: „Сустрэча з Богам", „Мая новая школа-2000" і „Як я правёў канікулы". Дзеці малявалі на асфальце. Была экскурсія на веласіпедах у Карыціска, Старое Корніна і Тафілаўцы, у час якой вучні знаёміліся з помнікамі гісторыі і назіралі за навакольнай прыродай. Праводзіліся конкурсы на тэму здароўя і гігіены. У будынку або на свежым паветры ладзіліся розныя гульні.

— Калі толькі дзеці хочуць маляваць, бяруць паперу, каляровыя алоўкі, крэйду і працуюць. Дзейнічае ў нас „Гурток спраўных рук", якога ўдзельнікі выконваюць розныя мастацкія працы і прадметы. Найлепшыя работы паказваем на выстаўках, — расказвае Міраслава Семянюк-Мараўская. — Часта заняткі і гульні арганізуем па просьбах дзяцей, спяваем, танцуем, дзяўчаты прыносяць нейкія прадукты і рыхтуем пачастунак. Многа часу праводзяць каля камп'ютэра, а адно за што плацяць, гэта доступ да Інтэрнэту. Вельмі цікавым аказалася спатканне са спадарыняй Леўчук з Дубіч, якая кручком вяжа сурвэткі.

Каля заліву Бахматы арганізаваны былі спаборніцтвы. Вучні гралі ў мяч, рынга і плавалі на веласіпедах. Пасля экскурсіі ў лес выконвалі працы з прынесеных з лесу карэння, кветак і грыбоў.

Сустрэча са спадарыняй Зінай Гаўрылюк адбылася перад яе хатай. Згодна з жаданнем гасцей, расказ пачаўся ад абрадаў, якія папярэджвалі вяселле. Спадарыня Гаўрылюк гаварыла пра звычаі, якія спадарожнічалі знаёмству маладых людзей, расказвала пра звычаі і вяселле ўключна з паасобнымі здарэннямі ў час вечара перад шлюбам, як і на працягу тыдня, звязанага з вяселлем. Хаця маладыя госці ў большасці жыхары вёсак, многія першы раз чулі дэталёвы расказ пра мінулае і даведаліся, што ў Дубічах быў вядомы аркестр, у якім гралі Уладзімір Панфілюк, Павел Чыквін і Ніна Пракапюк. У сваім аповедзе спадарыня Ніна адклікалася і да здарэнняў з вёскі Кнаразы, адкуль яна родам. Маладым цікавымі былі таксама расказы пра хрысціны і працу ў полі.

Удзельнікі спатканняў у бібліятэцы найбольш любяць конкурсы і гульні, а таксама вогнішча, запланаванае на развітанне з канікуламі.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Школа без гімбуса

23 жніўня ў Пачатковай школе ў Орлі вёўся продаж падручнікаў. Бацькі і дзеці таўпіліся ў холе будынка, стаялі ў доўгай чарзе. Выявілася, што ў новым навучальным годзе ў школе будзе вучыцца больш дзяцей, чым меркавалася раней.

— Усе падручнікі вучням пастаўляе наша школа, — паведаміла дырэктар школы Яўгенія Васілюк. — Гэтыя выданні, якія яшчэ не выйшлі з друку, бельская кнігарня давязе нам пазней. Маем надзею атрымаць міністэрскую дапамогу — у мінулым годзе было гэта 600 зл. — для дзяцей з маламаёмных сем'яў. Такіх дзяцей у нас мнагавата і ўсім камплектаў падручнікаў не купім, таму будзем дзяліць патроху паміж усіх патрабуючых.

У арлянскай школе зараз вучыцца 166 дзяцей (клас 0 — 23, I — 21, II — 27, III — 17, IV — 17, V — 21, VI — 15 і VIII — 25). Новымі вучаніцамі ў 0 і IV класах сталі дзве сястры з Мора Чыжоўскай гміны, якія шэсць гадоў жылі з бацькамі ў Італіі. Вярнуўшыся на радзіму, бацькі вырашылі пасылаць іх па навуку ў Орлю.

У гімназіі працуюць два паралельныя класы з 23 і 17 вучнямі. Школа не атрымала яшчэ гімбуса — мікрааўтобуса для давозу гімназістаў у школу. Дырэктар Яўгенія Васілюк мяркуе, што атрымаюць яго ў другім туры. Такім чынам гімназістаў з Дубіч-Царкоўных і Старога Корніна возіць арлянскі школьны аўтобус. А гімбус, які трапіў у Дубічы-Царкоўныя, возіць дзяцей з вёсак гэтай гміны ў новую школу, дзе вучацца 130 дзяцей.

— Беларускую мову ў Орлі вывучае значная колькасць дзяцей: у пачатковай школе — каля 70%, а ў гімназіі — 80%, — сказала дырэктар Яўгенія Васілюк. — У новым школьным годзе дзеці маюць магчымасць вывучаць бясплатна дзве замежныя мовы — рускую і англійскую.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*


У гэтым будынку сёлета вучыцца 166 вучняў і 40 гімназістаў.

# Знішчэнне мовы

**7. Стаўленне да носьбітаў мовы**

М. М. Мураўёў-Вешальнік 1 студзеня 1864 г. выдаў „Часовыя правілы для народных вучылішчаў паўночна-заходніх губерань". Згодна іх мясцоваму беларускаму і спольшчанаму беларускаму настаўніцтву не аказваўся давер. Такім даверам з боку Мураўёва карысталіся толькі сапраўдныя вялікаросы з „унутраных" вялікарускіх губерань, на якіх не ляжала ані ценю якой-небудзь тутэйшасці і прыхільнасці да Беларусі.

Рэптыльны часопіс „Вестник Западной России" ў лістападзе 1864 г. ажно захліпаўся ад радасці, што па-першае ў Вільні а потым ва ўсёй Беларусі адкрыты народныя школы для нярускіх вучняў, якія „з'яўляюцца радаснай падзеяй для кожнага расейца. (...) У іх захоўваюцца зачаткі таго роднага саюзу, якому прызначана замацаваць навекі непарушную сувязь тутэйшага краю з рэштай нашай неагляднай бацькаўшчыны! Усе мы, расейцы, у кім б'ецца „истинно-русское" сэрца, павінны з прыхільнай увагай сачыць за ходам і развіццём народных школ і ўсімі залежнымі ад нас мерамі дапамагаць іхняму росквіту. Нельга не аддаць належнага клопатам дырэкцыі народных школ і ўсяго мясцовага расейскага грамадства, дзякуючы якім кожны вучань Паўночна-Заходняга краю (так тады называлі заходнікі Беларусь і Літву, каб толькі не вымаўляць гэтыя этнічныя назвы — В. Г.) атрымае цяпер цвёрдае перакананне, што край, у якім ён жыве, заўсёды быў і будзе рускім. Ранейшы малапісьменны (беларускі — В. Г.) настаўнік заменены цяпер прыбыўшым з унутраных губерань, жонкі гэтых настаўнікаў бясплатна навучаюць дзяцей рускай мове, начальства зрабіла ўсё, што толькі магло, — грамадству застаецца заявіць сваю прыхільнасць расейскай народнай асвеце".

Палітыка ў рэчышчы Мураўёва працягвалася ў адносінах да мясцовых настаўнікаў вельмі доўга.

Не лепшымі былі адносіны ў 1920-1930-я гады ў міжваеннай Польшчы да носьбітаў беларускай мовы, асабліва пасля выдання „моўнага закону" 1924 г.

У сакрэтным дакуменце навагрудскага ваяводы ад красавіка 1939 г. перад мясцовымі ўладамі ставілася задача „абсалютнага выэлімінавання (выключэння — В. Г.) няпольскага элементу з настаўніцкіх становішчаў", „абмежавання да мінімуму прыняцця да сярэдніх і ліцэальных школ няпольскага элементу", а яшчэ ў 1937 г. праводзілася ачышчэнне ад беларусаў чыноўніцкага персаналу ў самаўрадзе.

Падобная палітыка праводзілася і ў Савецкай Беларусі. *(працяг будзе)*

**Валянцін Грыцкевіч**

# Чарговая бібліяграфія а. Рыгора Сасны

Нядаўна выйшла з друку чарговая бібліяграфічная праца а. Рыгора Сасны з серыі „Бібліяграфія праваслаўных прыходаў Беласточчыны. Алфавітная частка", якой першы том трапіў на кніжныя паліцы ў 1984 годзе. Пазней з'явіліся два дадаткі да гэтага тома — у 1991 і 1993 гадах. І вось сёлета выйшаў „Дадатак III"*, які мае быць апошнім у серыі манаграфій прысвечаных гэтай тэматыцы.

Так як у ранейшых выданнях гэтай серыі, аўтар не абмяжоўваецца толькі да царкоўнай тэматыкі, але аднатоўвае публікацыі, якія асвятляюць розныя сферы жыцця праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны, галоўным чынам беларускай нацыянальнай меншасці. Гартаючы бібліяграфічны даведнік можна ў ім знайсці анатацыі артыкулаў і выданняў гістарычнага характару, публікацый аб грамадска-палітычных і культурна-асветных падзеях ва ўсходняй Беласточчыне. Па гэтай прычыне выданне будзе дапаможнікам не толькі даследчыкам мінулага Праваслаўнай царквы на Беласточчыне. Напэўна пакарыстаюцца ім усе, што пацікавяцца гісторыяй, мовай ці этнаграфіяй насельніцтва ўсходняй Беласточчыны.

У „Дадатку III" змешчаны перш за ўсё анатацыі аб публікацыях, якія з'явіліся ў друку пасля 1993 года — ад выхаду папярэдняга дадатка. Састаўляючы бібліяграфію аўтар карыстаўся багатымі крыніцамі, пачынаючы ад навуковых і царкоўных выданняў, а канчаючы на ўсялякага роду свецкай перыёдыцы — агульнапольскай, рэгіянальнай і лакальнай, а нават лістоўках. Аўтар не прапусціў таксама адпаведных тэматычна публікацый, якія з'явіліся ў друку Расіі і Беларусі.

Ва ўводным слове прафесар Казімеж Урбан сумняваецца ці „Дадатак III" сапраўды стане завяршэннем манаграфічнай серыі і мяркуе, што аўтару неўзабаве трэба будзе распрацаваць „Дадатак IV" бібліяграфіі праваслаўных прыходаў Беласточчыны. Тады да чарговага выдання!

**Віталь Луба**

*Ks. Grzegorz Sosna, *Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie. Część alfabetyczna. Suplement III*, Ryboły 1999, ss. 256.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*I „а” клас з настаўніцамі Іалантай Кузьміцкай (злева) і Алінай Ваўранюк, далей спадарыня Крыстына Карчэўская.*

# Прыйшлі ў першы клас

Пачатак навучальнага года наша рэдакцыя сустракала ў ПШ н-р 4 у Беластоку. Ад трох гадоў вядзецца тут навучанне беларускай мовы. І сёлета ў першы клас прыйшло чатырнаццаць навучэнцаў, якія будуць вывучаць родную мову. Большасць з іх гэта выпускнікі Самаўрадавага польска-беларускага прадшколля н-р 14.

— Будзем працаваць паводле маёй аўтарскай праграмы, — кажа метадыст пачатковага навучання Аліна Ваўранюк.

У Беластоку знаёмства з беларускай пісьменнасцю пачынаецца ад першага класа, тры разы ў тыдзень.

Разам з пачаткам навучальнага года ў жыццё школы ўваходзіць адукацыйная рэформа. Зараз самай істотнай яе мэтай будзе падрыхтоўка маладога чалавека да жыцця. Настаўнікі самі будуць інтэграваць прадметы.

— Будзем звяртаць увагу на развіццё ўмеласцей і талентаў нашых выхаванцаў, — кажа выхавацелька I „а” Іаланта Кузьміцкая.

Першакласнікі будуць вывучаць таксама англійскую мову. У рамках заняткаў арганізуецца навучанне плавання.

У I „а” разам 27 навучэнцаў.

— Для мяне гэта новае дасведчанне і заадно вялікі гонар працаваць у польска-беларускім класе, — кажа выхавацелька.

Сама Іаланта Кузьміцкая — беластачанка.

— У нашай школе ёсць ужо навучэнцы беларускай мовы. Яны запрацавалі ўжо добрую славу.

Настаўніца згадвае таксама пра сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, у якіх разам з дзецьмі яна ўдзельнічала. **Г. К.**

*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*

**Васіль САХАРЧУК**

## Моўныя загадкі

1

Я не птах, а крылы маю,
не сабака, а кусаю,
не машына, а гуду,
наганяючы нуду.
Але — верце ці не верце —
застываю на канверце,
калі толькі захачу
і склады перакручу
для таго, каб не памерці,
бо ўсе хочуць маёй смерці.

2

Зусім няма маёй віны
у тым, што маю сэнс двайны.
Адзін — дзявочая краса,
другі — прылада працы,
з якой на луг, пакуль раса,
выходзяць завіхацца.
Калі ж ты націск памяняць
захочаш, мой харошы,
змагу захоўваць і прымаць
альбо выплачваць грошы.

## Вершы Віктара Шведа

### Не хачу хадзіць у школу

Адазваўся ў хаце рана
Першакласнік невясёлы:
— Дарагая мая мама,
Не хачу хадзіць я ў школу.

Я чытаць, пісаць не ўмею
Невядомыя мне словы.
Там няма зусім надзеі
На сяброўскую размову!

### Новая настаўніца

Матуля раніцай
Сынка пытаецца:
— Ваша настаўніца
Вам падабаецца?

— Хоць і са званнямі —
Зашмат не ведае,
Заўжды пытаннямі
Вучняў праследуе.

**Лідзія АРАБЕЙ**

# Новы сшытак

Косцік вельмі любіў пачынаць новы сшытак. І першыя старонкі пісаў заўсёды вельмі акуратна, старанна. Літары выходзілі роўныя і прыгожыя.

Але чым далей пісалася ў сшытку, тым бруднейшыя выходзілі старонкі, крывейшыя літары. А як пераваліла за палавіну, тут ужо невядома што рабілася! Літары пачыналі нібыта скакаць — то вылазіць зверху за лінейку, то сягаць пад яе, рабіліся нібы гарбатыя.

Косціку і самому брыдка было глядзець на сапсаваны сшытак і ён, не дапісаўшы яго да канца, кідаў і браў новы. Але з новым сшыткам выходзіла тое самае: зноў мазаніна, крывыя літары. І зноў прыходзілася браць новы.

Аднойчы тата спыніўся каля стала, за якім рабіў урокі Косцік. Узяў у рукі адкінуты сшытак.

— Бачу, сынок, не цэніш ты людской работы, — сказаў ён.

— Якая работа! — запярэчыў сын. — Колькі там той сшытак каштуе!

— Колькі каштуе, — паківаў з дакорам галавою тата. — А ці ведаеш ты, колькі трэба працы, каб такі сшытак зрабіць!..

— Падумаеш, — сказаў Косцік. — Некалькі лісткоў сашчапіць!..

— А як тыя лісткі робяцца, ты ведаеш?

— З паперы.

— Так, з паперы, а папера з чаго? Косцік маўчаў.

— Папера з дрэва робіцца, — пачаў тлумачыць тата. — Значыць, каб сшытак зрабіць, трэба дрэва спілаваць... А каб дрэва спілаваць, бензапіла патрэбна... І пілу з металу робяць.. А каб метал атрымаць, трэба спачатку руду знайсці... Потым вывезці яе з шахтаў на машынах, на цягніках... А машыны ды цягнікі таксама зрабіць трэба. Так што на твой сшытак сотні людзей працуюць, а можа, і тысячы. Геолагі — руду шукаюць, сталявары метал выплаўляюць, рабочыя машыны робяць, машыністы ды шафёры водзяць цягнікі, самазвалы. А для той пілы, для самазвала і бензін патрэбен, значыць, і нафту трэба з зямлі здабыць...

Косцік слухаў тату і дзівіўся. Ён ніколі не думаў, што звычайны сшытак робяць так шмат людзей.

— А тое дрэва? — гаварыў тата. — Яно расло, можа, сто гадоў, а яго спілаваць трэба, завезці на фабрыку, каб паперу на твой сшытак зрабіць. У клетачку ці ў лінейку. А ты дапішаш сшытак да палавіны і выкідаеш... І новы пачынаеш...

„Цікава, — думаў Косцік. — Калі на звычайны сшытак працуе тысячу чалавек, то як жа на ўсё астатняе?” І ён спытаў:

— А штаны мае таксама многа людзей рабіла?

— Таксама, сынок, — адказаў тата. — Спачатку трэба было лён пасеяць, ды даглядаць лён, каб вырас. Потым на станках ніткі сукаць, фарбаваць іх. З тых нітак тканіну ткаць, потым на машынах з тканіны штаны шыць. А станкі ж да машыны зноў з металу рабіць, а метал — з руды... Усюды праца чалавечая, каб не яна, нічога не меў бы ты, а жыў — як першабытны чалавек, у пячоры.

Косцік агледзеў свой стол. На ім ляжалі кніжкі, сшыткі, каляровыя алоўкі, ручка, лінейка. Ён узяў у рукі лінейку. І раптам уявіў, колькі людзей рабіла гэту няхітрую прыладу. Асцярожна паклаў лінейку на стол, падсунуў да сябе недапісаны сшытак. І даў цвёрдае слова — пакуль гэтага не дапіша, новага не пачне!



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Зялёная карова з Наваградка



Летнік „Зялёная карова". Наваградак.

— Чаму наш праект завецца „Зялёная карова"?

Пра экалагічна-краязнаўчы дзіцяча-маладзёжны гурток з Наваградка расказвае Таццяна Цырук.

— Карова, жывіна, як думаюць многія, дурная. Але ж колькі ад яе карысці чалавеку. Яна і корміць, і апранае, дае занятак — словам непрыкметны скарб. Гурток у асноўным займаецца папулярызацыяй экалагічнай думкі. Пры гэтым вядуцца краязнаўчыя занятні. Дзеці наведваюць ды пазнаюць сваё найбліжэйшае наваколле. Кожны, хто наведае Наваградак пабачыць, якое багацце скрывае тутэйшая зямля. Замкі, азёры, маляўнічыя краявіды, старажытныя цэрквы і касцёлы. Адсюль выйшла ў свет многа людзей сусветнай вядомасці. Прыгадайма хаця б Адама Міцкевіча ці Барыса Кіта.

На жаль, сярод мясцовай моладзі і грамадства вельмі малыя веды пра сваю малую айчыну. І таму „Зялёная карова" ладзіць адукацыйныя заняткі па краязнаўстве, арганізуе летнікі, праводзіць шматлікія мастацкія варштаты. Пастаянна дзейнічаюць музычная і пластычная майстэрні.

— Сярод удзельнікаў ёсць таксама нашы дзеці, — кажа лекарка Ларыса Бухаленка.

Грошы на дзейнасць ад фондаў здабываюць бацькі і валанцёры. Гурток дзейнічае на прынцыпах няўрадавай арганізацыі. Больш-менш як нашы Сустрэчы „Зоркі".

— Праца з дзецьмі і моладдзю на карысць грамадскай адукацыі і нацыянальнай свядомасці гэта абавязак кожнага светлага беларуса, — кажа Таццяна Цырук.

У будучыні „Зялёная карова" хоча супрацоўнічаць з сябрамі з Беласточчыны.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

**Жанэта РОЛЯ**

* * *

Мары танцуюць у такт тваіх веек.
Позіркі растапляюцца ў шэлесце слоў.
Думкі стаяць у чаканні пяшчоты тваіх праменняў.
Спалоханая — хачу,
магу...
уцякаю.

# Пра возера Свіцязь

Калісьці дзяржаўцам гэтага возера быў князь Мірскі. І вось ён задумаў даведацца, ці праўда, што на дне возера знаходзіцца затоплены горад Свіцязь, як аб гэтым гавораць у народзе.

Для гэтага ён рыхтаваўся тры дні. Пабудаваў вялікі карабель, сплёў невад, паклікаў ксяндза. І вось, калі закінулі невад, пераплылі на другі бераг возера. Пачалі выцягваць. Ён быў лёгкі, і яны думалі, што нічога не злавілі. Але калі выцягнулі другое крыло невада, убачылі ў ім цудоўную дзяўчыну з белым тварам, доўгімі валасамі. Адны ад здзіўлення знямелі, другія кінуліся ўцякаць. Тады яна загаварыла галасам, падобным да журчання ручая, які бег у гэтае возера:

— Хоць вы і задумалі дзёрзкую справу, парушылі спакой возера, захацелі даведацца пра яго тайны, то я раскажу вам. На тым месцы, дзе вы бачыце сёння возера, стаяў горад. Князь, які валодаў гэтым горадам, быў у саюзе з наваградскім князем Міндоўгам. Аднойчы напаў на Наваградак з магутным войскам рускі князь. Князь разам са сваёй дружынай паехаў на дапамогу Міндоўгу. У горадзе засталіся жанчыны, старыя, дзеці, сярод якіх была прыгожая дачка князя. Магутнае войска Міндоўга і войска князя былі разбіты, і рускае войска падышло да горада... Тады перад дачкой князя з'явіўся дух і сказаў, што ператворыць горад у возера, а людзей у кветкі. І вось... горад пачаў знікаць, а на месцы яго з'явілася возера, па якім плавалі цудоўныя белыя кветкі-цары.

Сказаўшы гэта, жанчына знікла. Больш яе ніхто ніколі не бачыў. Як успамін аб гэтым кожную вясну цвітуць на возеры кветкі-цары.

**Кацярына ПАЛЯКОВА, 9 кл. СШ н-р 131 у Мінску**

# Гісторыя кахання

*„Прэч з маіх вачэй!.."*
*І я знікну без следу.*
*„Прэч з майго сэрца!"*
*І сэрца скарыцца.*
*„Прэч з маёй памяці"*
*З гэтым, ты ведай,*
*Век наша памяць не можа*
*згадзіцца!"*
*А. МІЦКЕВІЧ*

Увесь дзень я нечага хвалявалася, быццам прадчувала штосьці нечаканае, загадкавае. Урэшце я стамілася і прысела каля акна. Ішоў снег. Раптам ён закруціўся як смерч, пачалася моцная завіруха...

... Дзе я? Што са мною? Я азірнулася навокал, мае вочы ўтаропіліся ў вялікую каменную пабудову. І раптам, зразумеўшы ўсё, я ціха войкнула: „Гэта ж старажытны наваградскі замак!" Высокія вежы ўразаюцца ў блакіт неба, цёмнымі байніцамі пазіраючы на ўвесь свет. З замкавай гары далёка бачацца маляўнічыя ўзгоркі, адвечныя лясы, працятыя стужкамі старадаўніх шляхоў.

Нечакана я ўздрыганулася ад дотыку. Перада мной стаяў малады прыгожы хлопец. Розум свяціўся ў яго вачах. Мяккімі павольнымі крокамі ён адыходзіць і нібы кліча мяне за сабой.

— Прыглядзься, над гэтым старажытным замкам лунаюць цені славутых яго насельнікаў — Міндоўга, Дзмітрыя Карыбута, Віценя, Вітаўта. Мураваныя вежы памятаюць асады крыжакоў, наезды татараў, шведскую вайну. І моцны дух валадароў, і пераможныя бяседы, і княжацкія крыўды, і здрады, і крывавыя злачынствы, і каралеўскае каранаванне.

Пачуцця страху не было, і толькі пякучая зацікаўленасць скрэблася ў душы. Я ўглядалася ў вочы юнака: дзе, дзе я яго бачыла? Чаму мне вядомыя і гэты рашучы позірк, і хвалі валасоў, і гэтыя вусны з такой прыветнай усмешкай. Хлопец зноў падаў голас: „Марыля, ну чаго ж ты? Хадзем хутчэй! Я столькі новага даведаўся пра наш замак". Юнак набліжаўся да мяне. Рукі яго расхінуліся ў нейкім бязмоўным выказванні. Я ўхілілася ад абдымкаў.

— Панна Верашчака. Чаму так крыўдзіце няшчаснага Адама?

О! Нарэшце мне ўсё стала зразумелым — гэта ж Адам Міцкевіч, які зблытаў мяне са сваёй каханай. Маё „я" патроху распаўзалася і знікала, і я ўсё больш і больш адчувала сябе Марыляй Верашчакай. І адразу ўсё стала на сваё месца. Зараз жа лета — пара летніх вакацый, і мой бацька запрасіў Адама ў Тугановічы правесці адпачынак.

Адам смяецца:

*Што там за хлопец*
*З абліччам прыветным*
*Поруч са стройнай дзяўчынай*
*Крочыць павольна*
*пад месяцам светлым*
*Берагам Свіцязі сіняй?*

Трымаючыся за рукі, мы ідзем і любуемся разнастайнасцю малюнкаў, якія нам адкрываюцца. Крыштальныя хвалі ціхім усплёскам загойдваюць нашы думкі, супакойваюць іх. Уся шчырасць юнацкага кахання свеціцца ў нашых вачах. І дастаткова адзінага дотыку, каб яны пачалі ўспыхваць, іскрыцца ад нявыказанага пачуцця. А словы нам і непатрэбныя: і я, і ён усё ведаем.

*Там, дзе страчаліся шчаснай*
*парою,*
*Дзе расставаліся сумнай хвілінай,*
*Буду заўжды неразлучным*
*з табою,*
*Бо ўсюды частку душы я пакіну.*

Не раз зляталі з яго вуснаў вершы, над якімі лунала каханне, калі мы да поўначы чыталі, спявалі беларускія песні, якія так хвалявалі Адама. Я гатова была граць на фартэпіяна і спяваць гадзінамі для майго любага. У гэтым цесным пакойчыку з парасціданымі нотамі і кніжкамі, з вазончыкамі розных пахучых зёлак на вокнах прайшлі самыя шчаслівыя хвіліны жыцця, да якіх ні я, ні Адам ніколі ўжо не маглі вярнуцца.



Наваградскі замак і фарны касцёл, дзе хрысцілі Адама Міцкевіча. Фота Г. КАНДРАЦЮК

Праз тыдзень прыедуць сваты. І гэта будзе не ён, а зусім чужы і незнаёмы мужчына... Графіня Путкамер... Гэтым незнаёмым і нежаданым прозвішчам будуць называць мяне на працягу ўсяго жыцця. А як жа ён? Той шчыры, адданы, з розумам у вачах юнак? Адамка! Усё скончана...

Слёзы мяне душылі, плечы трэсліся ад невыказнага гора. Я ўзняла позірк і ўбачыла — снег яшчэ ідзе, а завіруха скончылася.

Гэта быў сон, усяго толькі сон.

Я бяру ў рукі зборнік балад Адама Міцкевіча. Кніга сама разгортваецца, і са здзіўленнем чытаю:

*„Добра зрабіў і са гэта пазнаеш*
*Лёс ад мяне ты свой, скора*
*Стрэнеш Марылю, яе пакахаеш..."*
*Певень запеў тут на гора.*

*(„Першацвет", № 2-3/99)*



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# „Красуні" — чысты фальклор

Фальклорны калектыў, у якім спяваюць пяць жанчын з Краснага Сяла Боцькаўскай гміны, у 2000 годзе адзначаць будзе свой 10-гадовы юбілей. Калектыў працуе пад кіраўніцтвам Валянціны Марціновіч, таксама ўдзельніцы калектыву. Апрача яе спяваюць аднасяльчанкі Галіна Грабарук і Лідзія Юрчук ды Антаніна Грушэўская з Забалоцця і Валянціна Леанюк з Нурца. Жанчыны спяваюць без акампаніятара, на гутарковай беларускай мове.

Крыніца рэпертуару — пажылыя суседкі, знаёмыя, якія памятаюць спяваныя іхнімі бабулямі песні. Са старадаўніх песень выбіраюць самыя арыгінальныя. Рэпетыцыі спявачкі праводзяць па сваіх хатах, бо вясковая святліца зімою не ацяпляецца. Калі прыходзіць час палявых работ, не збіраюцца на рэпетыцыі з-за адсутнасці свабоднага часу. Нярэдка прыходзіцца рабіць рэпетыцыю ў дарозе на канцэрт.



*„Красуні" на фэсце ў Орлі — 27 ліпеня 1999 г.*

Спытаў я ў пявунняў пра стаўленне іхніх мужоў да дзейнасці ў калектыве. Па-рознаму бывае, кажуць мне спявачкі. Хвалююцца толькі тады, калі многа працы ў полі, а нам трэба выступіць на фэсце. Але звычайна адабраюць нашу самадзейнасць і часам едуць з намі паглядзець выступленне.

На канец я спытаў пра ўдзел моладзі. Калі б хтосьці маладых сарганізаваў, можа таксама заняліся б самадзейнасцю, адказалі мне жанчыны. А так не праяўляюць яны ахвоты займацца фальклорам. У іх свой свет, свае сучасныя мелодыі. Прыходзяць паслухаць нашы выступленні, але з намі не спяваюць. Часам паедзе з намі на фэст чыясьці ўнучка, напрыклад 6-гадовая Эвелінка з Беластока, — кажа адна з удзельніц калектыву „Красуні".

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# „Krivi" на Руўніцы

15 жніўня г.г. на гары Руўніцы, што знаходзіцца каля горада Устронь, ужо чацвёрты раз адбыўся фестываль фолькмузыкі „Там, скуль бруяцца крыніцы". Ідэя фестывалю — развіццё свядомасці і адметнасцей усіх нацый свету. Апошнім часам музыка вяртаецца ў бок шыроказразуметага фольку, а гэты фестываль паказвае, што ўдаецца зрабіць людзям, якія займаюцца пошукамі ды стварэннем новых аранжыровак гэтых старадаўніх песень.

Важнае для нас, беларусаў, тое, што ў гэтым фестывалі прысутнічаў вядомы ўжо нам, беластачанам, гурт **Krivi**, які маглі мы пачуць на „Басовішчах" у 1997 і 1998 гг., а таксама на сёлетнім Купаллі ў Нарве.

Прызнаюся — я асабіста не прысутнічаў на фестывалі ў Устроні і вельмі шкадую, што не змог поўнасцю адчуць тае атмасферы, якая там была. Але дзякуючы Другой праграме Польскага тэлебачання я з вялікім захапленнем аглядаў усё, што адбывалася 700 кіламетраў ад мяне, асабліва чакаючы канцэрту гурту „Krivi". Недзе ў 2 гадз. ночы, у прамым эфіры вядучая канцэрт Моніка Рычардсан заявіла ўсім гледачам, што зараз на сцэне пачынаецца доўгачаканае мною выступленне:

— На сцэне — калектыў „Krivi". Гэты фольк-гурт прыехаў з Мінска ў Беларусі. Звярніце ўвагу на незвычайны гарлавы голас вакалісткі гэтага гурту Веранікі Кругловай. Запрашаю. — І зараз пасля гэтых слоў паявіўся на экране гурт „Krivi" з песняй „За туманам".

У час гэтага канцэрту неяк нечакана пачаў дзьмуць моцны вецер, што паўплывала на атмасферу на сцэне. У той момант над натоўпам залунаў у начной таямнічай прасторы над жывецкімі пагоркамі дух старажытнасці. Некаторыя песні, а асабліва іх аранжыроўкі стварылі пачуццё, што гледачы ўдзельнічаюць у вельмі важным язычніцкім стараславянскім свяце, а ўсяму гэтаму дапамагалі элементы шчасця, страху ды трансу членаў гурту „Krivi". Найважнейшым у гэтым была містыка, якую можна было адчуць нават аглядаючы канцэрт у тэлебачанні. І яшчэ гэты вецер, што раскідаў чорныя валасы Веранікі!

„Krivi" конычылі іграць а $2^{30}$ ночы.

Пасля гэтага прыйшла ў маю галаву важная думка. Праводзяцца апошнім часам вельмі сур'ёзныя дыскусіі на тэму: Як нам, беларусам, прапагандаваць беларускую музыку? Мой адказ вельмі просты — прапанаваць арганізатарам фестываляў падобных, як той на Руўніцы, найлепшыя нашы гурты. Дарэчы, добрая музыка ў змозе самастойна прабіцца ў вышэйшыя сферы без непатрэбных дыскусій. **Лукаш Сцепанюк**

# Дубіцкая турбаза

Маладзёжная турыстычная база ў Дубічах-Царкоўных дзейнічае з 1987 года. Найбольш турыстаў наведала яе ў 1989 годзе, калі начлегамі пакарысталіся 2002 асобы. На жаль, у апошніх гадах наведвальнікаў стала менш.

— Сёлета нашу турбазу наведала 9 невялікіх груп, разам каля 50 чалавек і гэта было крыху больш, чым у мінулым годзе, — сказаў кіраўнік турбазы Уладзімір Місяюк, настаўнік мясцовай школы, які трэці год загадвае базай. — Наведвалі нас галоўным чынам студэнты з поўдня Польшчы — Лодзі, Любліна, Катавіцаў і Варшавы. Былі гэта веласіпедысты, якія кожны дзень праязджалі па 100 км. Адна пара студэнтаў з Любліна за дзень пераадолела нават 127 км. Спыняліся яны толькі на адну ноч і ад'язджалі далей. Нашы наведвальнікі захапляліся чысцінёй турбазы і яе абсталяваннем (мікрахвалевая печка, тэфлонныя патэльні, газ, радыёпрыёмнік, тэлевізар і відэамагнітафон). Спадабаліся ім цішыня, краявіды і чыстае паветра. Пабывалі яны на заліве Бахматы, карысталіся мясцовым барам. Я сам прапанаваў ім экалагічнае харчаванне — малако, агуркі і памідоры.

У школьным будынку, у якім падчас канікулаў змяшчаецца маладзёжная турбаза, наладжаны быў краязнаўчы куток. У ім экспанаваліся карты Дубіцкай гміны і наваколля, даведнікі, буклеты і рэгіянальныя выданні. На месцы можна было паглядзець выставу вырабаў з саломы і бярозы. Турысты цікавіліся царквой і праваслаўем, многія распытвалі пра беларускія нацыянальныя сімвалы і навучанне беларускай мовы. Усе наведвальнікі турбазы пакінулі памятныя запісы ў хроніцы і абяцалі вярнуцца сюды праз год.

**Славамір Кулік**

# Сямятычы вядомыя за граніцай

У Сямятычах пражывае звыш 15 тысяч чалавек. Жыхары гэтага горада часта выязджаюць за граніцу ў пошуках працы, перш за ўсё ў Бельгію, Галандыю ды Люксембург. Калі вяртаюцца, прывозяць у свой горад 10-12 млн. долараў у год.

Сямятычы ахвотна наведваюць турысты, перш за ўсё сталічныя. На дзесяць самаходаў, якія прыязджаюць у гэты горад, восем з Варшавы. Сямятычы, як вядома, распалажаны на шляху з Варшавы ў Белавежу.

У горадзе выдаюць двухтыднёвік „Голас Сямятыч" тыражом у 3 тысячы экземпляраў. Газету чытаюць, між іншым, у Бельгіі, Францыі, ЗША і ў Канадзе.

**(гай)**

# Жыццё і дзейнасць Лукаша Дзекуць-Малея



**Памёр у Гданьску, а не ў ЗША**

Гданьск, Вербніца, 4 красавіка 1999 г. У каталікоў першы дзень Вялікадня. З асвячанымі вербнымі галінкамі пасля царкоўнага набажэнства я разам з сёстрамі Ірынай і Аняй Гаданчук ды дзецьмі вырашылі вярнуцца пешшу. Надвор'е, хаця красавіцкае, было сонечнае і прыемнае для шпацыравання. Па дарозе на трамвайны прыпанак каля станцыі Гданьск-Глувны вырашылі наведаць толькі што аднаўлены магільнік савецкіх воінаў, а пасля нядаўна адкрытыя для пахаванняў г.зв. гарнізонныя могілкі, якія знаходзяцца за аўтобуснай станцыяй у Гданьску. Дарэчы, гэта даволі цікавыя могілкі, адны з тых нямногіх, якія ацалелі пасля вайны ў Гданьску. Пахаванні там адбываліся яшчэ ў канцы 50-х гадоў. Пасля могілкі закрылі. Я часта хадзіла па іх з поваду іх гістарычнай цікавасці. Захаваўся там даваенны праваслаўны квартал з нямногімі ўжо — на жаль — драўлянымі крыжамі, на якіх на металічных таблічках выпісаныя прозвішчы даваенных святароў і афіцэраў, якім прыйшлося навекі астацца ў гданьскай зямлі. Квартал запушчаны, парослы быллём і закінуты ўсякім смеццем. Другі цікавы квартал — мусульманскі — здаецца, ужо паваенных часоў. Дзе-нідзе можна знайсці і нямецкамоўныя надпісы на самотных магілках. Там таксама пахавана нядаўна памерлая бабуля Ірыны і Ані. Вось і вырашылі дзяўчыны паказаць мне праваслаўны крыж на яе магілцы. На гэтых поўных экуменіі могілках мінулі мы і магілу з надпісам на ўкраінскай мове. Абышоўшы ўсе могілкі і засумаваўшы, што немагчымым ёсць вяртанне праваслаўнага квартала царкве ў Гданьску для новых пахаванняў, выходзячы, пры галоўнай алеі мой позірк раптам затрымаўся на адным помніку. Надпіс на ім выразна паведамляў: „Tu spoczywa w Bogu nasz ukochany Tatuś ś.p. Łukasz Dziekuć-Malej. 1.X.1888 — 20.I.1955. Rzekł Jezus, kto w Mię wierzy, choćby umarł, żyć będzie. Św. Jan II 25" — „Дзяўчыны, — кажу, — здаецца, выпадкова зрабілі мы адкрыццё на меру гісторыі Беларусі! Будзем мець куды прыносіць кветкі на 25 Сакавіка".

Усё-ж такі знаходка не давала спакою. Як гэта магчыма, што ад дзесяці гадоў, заходзячы на гэты могільнік, першы раз я заўважыла гэты помнік?! Такое здавалася немагчымым — помнік стаіць пры галоўнай алеі, трэці з левага боку ад уваходу на могілкі!

Пра постаць Л. Дзекуць-Малея ўпершыню пачула я ў другой палове васьмідзесятых, калі пачала корпацца ў пакутнай беларускай гісторыі. Пазней, пішучы артыкулы пра беларускія рэлігійныя выданні ў II Рэчы Паспалітай, сустракалася з прозвішчам Л. Дзекуць-Малея як перакладчыка Евангелляў на беларускую мову, выдадзеных выдавецтвам „Компас" у Лодзі, ці Новага Запавету.

Пра яго чытала я ў рускамоўным „Маяку", у якім была беларускамоўная старонка — магчыма, што дзякуючы яму. З беларускім рухам звязаны ён яшчэ з часоў І сусветнай вайны. Па адукацыі — настаўнік, дзейнічаў у Крынках, Беластоку, Гродне. У БНРаўскіх дакументах не раз паяўляецца яго прозвішча разам з імёнамі Антона Луцкевіча, Браніслава Тарашкевіча і іншых. Нейкі „ех" у „Przeglądzie Wileńskim" у 1926 годзе, калі выдадзена было на беларускай мове „Паводле Лукі сьв. Евангельле" пісаў: „anonimowy tłumacz świetnie włada językiem białoruskim". Пасля выйшлі яшчэ тры евангеллі. Далей „ех" пісаў: „katolicy i prawosławni winni się zakrząnąć też, by mieć własne przekłady Pisma Św. na język białoruski, skoro bez



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Па слядах мінулага

***(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)***

**Тыкоцін**

Тыкоцінскую царкву і яе фонды інкарпаравалі навечна ў Супрасльскі манастыр, а кіеўскі мітрапаліт Рафаіл Корсак дакументам ад 15 чэрвеня 1637 года пацвердзіў і загадаў устанавіць пры тыкоцінскай крэпасці мітрапалічую рэзідэнцыю: *якобысьмы и мы митрополита, яко и другие ИМць епископове едучи на сеймы до Варшавы, або до КЙМ мели где по дорозе склонитися и одпочинути. Так теж жебы и купцы религии Греческой, которые килька раз на ярмарки в року до Тыкотина з розных мейсц изъезджаются могли своего набоженства заживати. Немней теж и для того, абы през розмножение народу Руского и самое место, которое ест спустошалое могло ся наполнити пляцы пустые осести...*

У 1640 годзе архімандрыт Шыбінскі купіў ад Ягнешкі Маташовай, жыхаркі Тыкоціна, два пляцы — адзін у горадзе, другі за горадам, насупраць царквы. Захаваныя дакументы 1644 і 1662 гадоў указваюць на шматкратныя спробы адабраць царкву і напады на манастырскіх людзей.

Пры архімандрыце Нікадзіме Шыбінскім у Тыкоціне была пабудавана прыстань на рацэ Нарве, якой сплаўлялі збожжа ў Гданьск. Водным шляхам прывезены быў з Гданьска іканастас для царквы ў Супраслі. У манастырскім летапісе адзначана: *Gdy zaś Nikodem Szybiński został archimandrytą i prokurował port dla Supraśla w Tykocinie, natenczas Supraśl i nawigacją do Gdańska ze zbożem szczęśliwie zaczął i lepiej wszystkie interesa zaczęły się fundować, a całej dyspozycji klasztornej znaczna nastąpiła melioracja.* Царквою ў Тыкоціне займалася трое манахаў.

Пасля смерці супрасльскага архімандрыта каталіцкі ксёндз Стэмпкоўскі, прад'яўляючы прэтэнзіі на царкву, разам з мяшчанамі ўчыніў напад на царкоўны пляц, у выніку чаго будаўнікі былі пабіты, а матэрыялы — разам з баржай са збожжам — раскрадзены. Справу разглядаў суд у Вільні ў 1644 годзе і сваім выракам пацвердзіў прывілею, дадзеную царкве ў 1637 годзе. Яшчэ ў 1655 годзе кароль Ян Казімір пацвердзіў фонд для тыкоцінскай царквы. Нягледзячы на напады, суды і моцную апазіцыю мясцовага кліру, Супрасльскі манастыр утрымліваў царкву.

У 1659 годзе Ян Казімір, за заслугі для караля, надаў Тыкоцінскае стараства на ўласнасць Стэфану Чарнецкаму, які ў сваю чаргу на другі год перадаў яго сваёй дачцэ Аляксандры Кацярыне. А яна потым выйшла замуж за Яна Клеменса Браніцкага, уладальніка Беластока, які ў 1709 годзе Тыкоцін узяў у сваё распараджэнне. Спрэчкі наконт царквы працягваліся. Калі Супрасльскі манастыр узначальваў епіскап Георгій Булгак, ксёндз Антоні Парэмбны ўчыніў паўторную спробу адабраць царкву. У 1742 годзе каталіцкі святар напаў на храм, завалодаў ім, а бернардзінцы захапілі будаўнічы лесаматэрыял. Разгляд справы цягнуўся ў Янаўскай кансісторыі да 1744 года. Ксёндз Парэмбны быў часова зняты з пасады, а бернардзінцы дрэва, якое скарысталі для рамонту свірна, абавязаны былі вярнуць Супрасльскаму манастыру.

Спрэчкі паміж Супрасльскім манастыром і Бернардзінскім кляштарам за царкву ў Тыкоціне цягнуліся да 1747 года, калі было дазволена адпраўляць багаслужбы ў тыкоцінскім храме. Згодна з дамовай за год арэнды Супрасльскі манастыр меў атрымаць *żyta 10 kwart, jęczmienia 6 kwart, pszenicy 2 kwarty, 1 barana, 1 fasok masła, połówkę świniaka, serów 60 sztuk i 1 dukat na wino.*

Чарговая царква ў Тыкоціне пабудавана была ў 1758 годзе. З дэканскай *візіты* Падляшскага дэканата ад 1773 года вынікае, што тыкоцінскі уніяцкі прыход ужо не існаваў. Магнат Браніцкі знішчаны замак у Тыкоціне не адбудаваў і сваю рэзідэнцыю перанёс у Беласток. Разабраныя муры замка паслужылі для будовы місіянерскага кляштара. Душпастырская дзейнасць тыкоцінскіх бернардзінцаў, апрача звычайнай абслугі свайго касцёла, распаўсюджвання трэцяга закону св. Францыска і арганізавання кас-



*Ікона Божай Маці з касцёла Святой Тройцы ў Тыкоціне.*

цельных брацтваў, мела таксама на мэце місіянерскую работу сярод праваслаўных, пазнейшых уніятаў. Гэтая дзейнасць аказалася надта плённай. У яе выніку ліквідаваўся прыход у Тыкоціне, а пасля ў Багушэве. *Візіта* царквы ў Багушэве ад 1773 года выявіла, што *parafianina żadnego nie ma, gdyż już od dawnego czasu wszystkie na obrządek łaciński poprzechodzili.*

У 1833 годзе тыкоцінская царква перанесена была на Вострую Гару ў вёску Саколы. У Тыкоціне засталася толькі назва адной вуліцы — *Zacerkiewna*, якая напамінае аб існаванні ў мястэчку храма ўсходняга абраду.

У Вільні ў Публічнай бібліятэцы ў канцы XIX стагоддзя знаходзіліся дзве кнігі з тыкоцінскай царквы: *Триодь постная* і *Псалтир*, выдадзеныя ў пачатку XVIII стагоддзя. У *Триоди* на 79 лісце захаваўся наступны надпіс: *Oyciec Stefan Hrymaniewski prezbiter rybołowski protopop Podlaski ręką własną roku Pańskiego 1710. Ta księga nadana do Cerkwi Tykocińskiej na wieczne czasy a jest do Ryboł wzięta pożyczona tym sposobem powinna być zwrócona dla cerkwi tykocińskiey.* Другая кніга, *Пасалтир*, налічвала 179 лістоў, а на 147 лісце знаходзіўся надпіс: *Oiciec Gabriel Łoziński prezbiter cerkwi Tikocky, rodem z Uhnowa powiatu Bełzskiego.* Паводле *Исторического Вестника* ад 1887 года (т. 29, № 7), у ваколіцах Тыкоціна ў сярэдневякоўі існавала праваслаўе, аб чым сведчаць назвы пасяленняў: Папаўляны, Лапухова, Леснікі, Яжэва, Паева, Саннікі, Савіна, Саколы-Навасёлкі, Выліны, Саколы-Русь, Русь-Старая. У Лесніках, на мяжы з суседняй вёскай, знаходзіўся камень з фундамента храма, а ўрочышча называецца *Цэрквіскам.* Старажылы аўтару публікацыі ў згаданым часопісе тлумачылі, што калісьці ў гэтым месцы была *руская царква.* Цяпер складана шукаць сляды ранняга ўсходняга хрысціянства ў гэтых ваколіцах, паколькі іх намагаліся дакладна сцерці.

Аднак у тыкоцінскім касцёле Святой Тройцы, у бакавым алтары захаваўся абраз Божай Маці з II паловы XVII стагоддзя. Гэта ікона тыпу *Адзігітрыі*: Багамаці на левай руцэ трымае Дзіцятка Госпада Ісуса Хрыста, якое бласлаўляе. Бласлаўляючая рука складзеная паводле ўсходняга абраду, а аблічча Божай Маці нагадвае твар з іконы Супрасльскай БМ. Але рыза і арнаментоўка на іконе з Тыкоціна паходзяць з XVIII і XIX стагоддзяў і выкананы ўжо ў заходнім стылі.

**(аге)**

---

nich podobną pracę już wykonuje Tawarystwo dla pierakładu Światoha Pisańnia na biełaruskuju mowu".

Лукаш Дзекуць-Малей быў баптыстам. Стаў ім менавіта ў Беластоку, дзе служыў у царскім войску. Было гэта недзе каля 1911 г. Тут і сутыкнуўся з баптысцкай царквой і вярнуўся да Хрыста. У навагоднюю ноч 1912 г. прэсвітэр Раман Хамяк ахрысціў тут маладога беларускага настаўніка ў рацэ Супраслі. З таго часу Л. Дзекуць-Малей пачаў весці актыўную місійную працу: пераканаў да баптызму праваслаўнага бацюшку і некалькі харыстаў з беластоцкага сабора. Сам, будучы раней праваслаўным родам са Слоніма (ці недзе са Слонімскага павета — тут існуюць разыходжанні) вельмі пацярпеў за адыход ад веры бацькоў — Мікалая і Марыі з роду Тарасевіч. За прапаведаванне Евангелля разам з братам (баптысцкае акрэсленне аднавернікаў) Д. Прыступам быў арыштаваны ў Лыскаве каля Ваўкавыска. Прывязалі іх да сядла жандарскага каня і так пехатою гналі каля 170 кіламетраў. Гэтыя праследаванні яшчэ больш наблізілі яго да Хрыста. Закончыўшы да вайны Баптысцкую тэалагічную семінарыю, меў усе падставы для місіянерскай працы. Баптызм як адгалінаванне пратэстантызму прыйшоў у Расійскую імперыю з Заходняй Еўропы і Амерыкі. Захаплялася ім руская арыстакратыя валодаючая французскай і нямецкай мовамі. Распаўсюджванню баптызму паспрыяла рэлігійная свабода ў імперыі пасля 1905 г.



У час БНР Л. Дзекуць-Малей дзейнічаў у Гродне, дзе быў кіраўніком прытулку, членам павятовай рады, вядома, беларускай, арганізаваў „Беларускую хатку". Праўдападобна, тут жа пазнаёміўся з Серафінай Кішко — настаўніцай, загадчыцай Гродзенскай прытулковай беларускай школы, будучай спадарожніцай жыцця (8.09.1898 — 18.02.1953). Дзейнасць Л. Дзекуць-Малея ў беларускім руху на Гродзеншчыне была соллю ў воку польскіх улад, пераняўшых пад сваю апеку Гродна. У 1920 г. высяляюць Л. Дзекуць-Малея ў Брэст, дзе вёў ён місіянерскую працу ўвесь міжваенны перыяд. За яго́ным часам Брэст стаў евангельска-баптысцкім цэнтрам Заходняй Беларусі. Адбываліся там курсы прапаведнікаў, рэгентаў хораў, настаўнікаў нядзельных школаў. Пачаткі ў Брэсце не былі лёгкія. Спярша прыхільнікі баптызму сустракаліся ў сутарэнні насупраць праваслаўнай царквы, якая непрыхільна ставілася да „сектантаў". У памяшканні праваслаўныя часта выбівалі шыбы і па-рознаму абзывалі баптыстаў. У хуткім часе колькасць прыхільнікаў баптызму павялічылася. Тады Дзекуць-Малеі нанялі памяшканні па вуліцы Люблінскай уніі. Хутка пачалі будаваць уласны збор па вуліцы Шырокай 42 (пазней Яна Сабескага, а зараз Леніна). Баптысцкі збор у Брэсце ў 1928 г. налічваў 246 членаў (былі імі выключна асобы дарослыя, паколькі баптыстам можна стаць (ахрысціцца) найраней у 16 гадоў. У Брэсце адбываліся баптысцкія з'езды, напрыклад у 1923 г. адбылася канферэнцыя Задзіночання баптыстаў і евангельскіх хрысціян, якога вялікім прыхільнікам быў Л. Дзекуць-Малей. Л. Дзекуць-Малей арганізаваў таксама агульнаасветніцкія, прафесійныя, агародніцкія, пчалярскія курсы. Для занядбаных дзяцей і сірот стварыў прытулак. Яму таксама належыць ініцыятыва і першыя крокі дзеля перакладу Бібліі (Новага Запавету) на беларускую мову.

Сваёй дзейнасцю Лукаш Дзекуць-Малей упісаўся не толькі ў развіццё евангельска-баптысцкага руху, але і беларускага, пра што сведчаць хаця б публікацыі беларускіх гісторыкаў.

***(працяг будзе)***

**Лена Глагоўская**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Працавала і спявала

Нарадзілася я амаль семдзесят гадоў таму. У вайну немцы вывезлі нашу сям'ю ў Беласток; на Сянкевіча мы жылі. Мая мама працавала кухаркаю, мяса прыносіла з кухні дадому, гаварыла, што бараніна гэта. Тое мяса нейкае мяккае было, не такое тугое, як бараніна. Аднойчы пытаю маму:

— Мама, скажыце праўду, што гэта за мяса такое?

— Гэта сабачае мяса.

То я больш таго мяса і ў рот не брала. Тады мама стала купляць каровіны галовы ў склепе, што каля *„Гродна"* быў. З аднае галавы варыла поўны саган хадок; хапала іх на цэлы тыдзень.

Зараз пасля вызвалення перабраліся мы на вёску. Хацела я ў школу хадзіць, бо пры саветах два класы скончыла; любіла я вучыцца і навука давалася мне лёгка. Аднак тата сказаў:

— Трэба світэры рабіць, прасці, на хлеб зарабляць, а не ў школу хадзіць!

Ну і адправілі мяне ў Беласток *служыць*. Знайшла я працу на Млыновай, маленькага хлопчыка пільнавала.

Мае гаспадары былі праваслаўныя, таму і сачылі за маімі рэлігійнымі паводзінамі. Перад Вялікаднем трэба было жыльнікаваць, а пасля посту ісці да споведзі. Бацюшка пытае мяне:

— Што дзелаеш?

— Пільную дзіця, — адказваю.

— Нельзя думаць пра парней, — паведамляе мне.

— А вы, як малады былі, пра дзевушак не думалі? — адказваю я.

— *Ваймятцасына*, ідзі сабе з Богам!

Я была з вёскі і гарадскіх правіл не ведала: калі ішла ў нейкі пакой, то адкрывала дзверы і ўваходзіла, не *пукала*. Аднойчы ўваходжу я ў пакой гаспадароў, гаспадыня сядзіць на тапчане расхіліўшы ногі, а гаспадар стаіць перад ёю на каленях і языком ёй *там* смокча...

Прыйшлося мне пакінуць маіх гаспадароў і разглядацца за другою працай. Папрацавала я яшчэ крыху ў *цясткарні*: уставала а чацвёртай гадзіне раніцы, а вярталася ў дванаццаць гадзін ночы. Колькі ж можна так працаваць?

Вярнулася я дадому, а пад восень адзін чалавек з Нараўкі арганізаваў выезд на працу ў пэгээр недзе аж пад Гожуў-Велькапольскі. Сабралася нас некалькі пятнаццацігадовых дзяўчат і паехалі поездам. Там, у маёнтку *дасвядчальным*, капалі бульбу. Бульба, *мічурынка*, была велізарная, як палена, то і збіралі за трактарам хутка. За метр плацілі па пяць злотаў, выплаты выпадалі ў кожную суботу. Купіла я там сабе *ясёнку* і туфлі на высокіх абцасах.

У пакойчыку было нас чатыры, усе з нашых бакоў; жылі на трэцім паверсе. На калідоры трымалі мы міску з вадою. Аднойчы пайшла я рукі мыць, а ў той місцы нешта плавае: гляджу — гаўно! А ў суседнім з намі пакойчыку жыла нейкая панюся, якая паводзіла сябе ў адносінах да нас вельмі высакамерна. Так, думаю, гэтага ж ніхто з нашых дзяўчат не зрабіў. Адкрываю я дзверы да тае панюсі, здзіраю з яе коўдру і ўсю тую міску ёй на голаў! На другі дзень ужо там яе не было...

У сталоўцы кухарка мне і маёй сяброўцы стала замест мяса даваць косці. То мы аднойчы тыя талеркі пакідалі і пабілі, бо не ведалі мы, каму было там скардзіцца. Пасля прасілі ва ўкраінцаў, якія былі туды прыехалі, каб нам хлеб у Гожаве куплялі і так той хлеб з вадою елі.

Украінка кажа нам:

— Едзьце ў Берлін, адсюль недалёка, 120 кіламетраў.

— Мы не хцэмы, — адказваем, — бо *швабы* нас заб'є.

— Але зобачыце, які Бэрлін!

Не паехалі мы ў той Берлін і пачалі збірацца дадому. Кіраўнік прасіў нас астацца на зіму, бо мы мелі прыгожыя галасы, а ён думаў арганізаваць там хор.

— І працаваць будзеце, — гаварыў нам, — фасолю лушчыць, і *клясы* будзеце канчаць зімою.

Але мы пабаяліся, што без нас нашы мамы паўміраюць. Каб мо былі адважнейшыя, то хто ведае, як склалася б наша жыццё. Тады ж набіралі ў „Мазоўша" і ў другія ансамблі...

Пазней ездзіла я яшчэ і ў другія пэгээры: пад Гіжыцка, Алецка. Вясною бульбу ў радкі клала, *навозы* сеяла, гной растрасала, летам жыта з поля вазіла. Кароў даіла: дваццаць рана і дваццаць вечарам. І пасвіла; аднойчы прыганяю статак, а аднае няма. Добрая была карова, хаця такая *бітлівая*, што ніхто апрача мяне яе не мог выдаіць. Бывала, пачуе муху ці камара і ўжо бах па вядры і малако на зямлю вылье. А я, калі даіла, усаджу ёй ва *ўздых* галаву і не б'еццa! Пазвалі міліцыю шукаць карову. На мяне гаворaць: Прадала. Але міліцыянт кажа:

— Не, то млода дзеўчына. Она ешчэ тэго не уме робіць.

Праз тыдзень зноў вяду кароў пасвіць. А яны збегліся ў адно месца і пачалі ўсе мычаць. Я туды, бачу: мая карова ў роў, дзе глінку капалі, увалілася і за высокаю травою не было яе відаць. Я хутчэй у пэгээр! Прыбеглі мужчыны, пастронкамі яе вывалаклі і ў абору зацягнулі. Запарылі асыпку, далі піць. І праз тры дні карова зноў малако дала!

Працавала я і пры *мацёрах* чатыры тыдні, а пасля мяне перавялі на *тучнікі*; даглядала я іх 18 месяцаў. Цяжкая была праца: зімою ваду ім з возера ў цыстэрны набірала, то, бывала, аблюся і вада на мне на лёд замерзне.

А парасят даглядалі мужчыны. Здохне парася, то яго па тры разы да ветэрынара вазілі, а сабе на той конт малых парасят пяклі.

Адна, з мае вёскі, знайшла ў полі кусочак жалеза, такі як ручка, і стала па ім у кампаніі каменем біць. Я крычу:

— Што вы робіце? Разыходзьцеся, а то няшчасце будзе!

Адбегла я крыху, а тут і выбух! А тая крычыць:

— Мае вочы не бачаць! Мае вочы не бачаць!

Зроку яна ўсё ж не страціла, але тры пальцы ёй абарвала...

* * *

Нядаўна пенсіянеры з Беластока арганізавалі экскурсію ў Рым. Паеду, думаю, і я: не была ў Берліне, то хаця Рым пабачу; нічога, што праваслаўная. Але ж паехалі ў тое паломніцтва і мае местачковыя сяброўкі. А праз нейкі час бачу, што на мяне пачынаюць касавурыцца. Вечарам ляглі спаць, а адна з майго пенсіянерскага гуртка да мяне:

— Ваша вяра горша, бо пузьнейша!

— Сьпій, — адказваю ёй.

— А веш, жэ я естэм профэсорка!

— Тым, хто да неба першымі рваліся, — адказваю ёй, — Бог у Вавілоне мовы перамяшаў.

Аднойчы падходзілі да камуніі і пытаюць мяне, ці я таксама падыду.

— Не, — адказваю, — бо я ўжо спавядалася.

Прыглядаюся: і яны не ўсе падходзяць. Адзін быў амаль увесь час на лёгкім пахмеллі і толькі раз прыняў камунію молячыся:

— Пане Езу Хрыстэ, даруй мі, жэ я такі гжэшнік!

Адна жанчына, бачу, з суседняе вёскі. Пытаю яе:

— Пані ма на іме Крыстына?

— Так.

— То пані ест цурко Васі, сёстро Колі!?

— Я такіх не знам, я такіх не знам! — запярэчыла яна.

А некалькі дзён пасля тае экскурсіі бачу яе: стаіць з братам; магла я спытаць, ці яго не ведае, але махнула рукою.

У аўтобусе падышоў да мяне ксёндз:

— Засьпевай цось пані!

— А цо? Можэ *Шалон шатаецца, ноч начынаецца*?

— Не сьпевай тэй.

То я яму заспявала *Ах ты гара, гара, гара высокая*.

— Але ладне! — пахваліў ксёндз.

— А гдзе там, кшычы так, жэ ушы пухно! — пачалі крычаць паломніцы.

— То пані засьпева „Многая лета", — папрасіў ксёндз.

Я заспявала, а ксёндз усклікнуў:

— Браво! Але ладне!

Але пазней да мяне тая „прафэсорка" прасычала:

— Жэбысь венцэй не шла сьпеваць!

А калі, бывала, ездзіла я ў яе мястэчка і завозіла ёй смятану і сыр, то яна абцалоўвала мяне як сястру родную.

Аднойчы ехала я ў Беласток. У мястэчку прысела да мяне жанчына, згаварыліся з сабою. Зганула я пра „прафэсорку":

— Мам знаёмо, Адэля се называ, ей монж Стэфан. І сын у ніх Яцэк...

— Пані, то не іх сын, то з дому дзэцка!..

Запісаў **Аляксандр Вярбіцкі**

*(Імёны персанажаў зменены)*

# Жанчыны ў Лідзе



*Стаяць злева: Міра Лукша (Беласток), Валянціна Пігулеўская (Ліда), Зінаіда Дудзюк (Брэст), Леакадзія Мілаш (Вільня), сядзіць Марыя Смятанская (Кіеў).*

— Я з'яўляюся старшынёй рэгіянальнай філіі „Адраджэння Айчыны" ў Лідзе. Галоўная наша арганізацыя знаходзіцца ў Мінску, старшыня яе — Таццяна Ваніна. Працуем на аснове нацыянальнай ідэі. Усім вядома, што становішча нашай культуры, нашай мовы вельмі цяжкае, нават крытычнае. Таму з'явілася такая патрэба, што свядомыя жанчыны, якім балюча такое становішча, захацелі выразіць крык свае душы, — кажа **Валянціна Пігулеўская**, удзельніца канферэнцыі „Жанчына. Планета. Будучыня" ў Мінску. — Якім чынам мы можам гэта зрабіць? Мы — зусім маленькая арганізацыя ў правінцыяльным горадзе. Але мы хочам нешта зрабіць для нашай Радзімы. І маленькімі крокамі ідзем.

Многа мы яшчэ не ўмеем, не ведаем, што рабіць. Вучымся. Выкарыстоўваем розныя формы дзейнасці. Ладзім канферэнцыі. Што нам удалося зрабіць, гэта вітамінізацыя беларускай школы, адукацыйны семінар для настаўнікаў, юрыдычны семінар (там уздымаліся пытанні не толькі юрыдычныя, сацыяльныя). Зараз у нас у Лідзе адкрываецца Жаночы цэнтр, каардынацыйны і кансультацыйны, у якім будуць працаваць юрыст, псіхолаг. Думаем больш увагі звярнуць на дзяцей, дзяцей-сірот і па падняцці нацыянальнай свядомасці, ведаў, гісторыі. Мы яшчэ толькі пачынаем у гэтай галіне. Працуем разам з Таварыствам беларускай мовы, наладжваем кантакты. Хацелі б звязацца з жанчынамі Беласточчыны. Мне гэта вельмі цікава. Была я на Беласточчыне, на Гайнаўшчыне, у Заблудаве. Адтуль родам мае бацькі, пераехалі ў Беларусь пасля вайны. Мяне вельмі абрадавала і ўразіла тое, што ў вас не забылі роднае мовы і нашай культуры. Я сябе адчувала як у **сваім** асяроддзі. Пераехаўшы нашу граніцу, ужо ў Гродне я не разумела і была ў разгубленасці, што гэта робіцца з намі, беларусамі!

— У мяне самой складанасці з беларускай мовай, — дадае Валянціна Пігулеўская. — Нават у мяне, беларускі ад пакаленняў! Але я радзілася ў горадзе, чула кругом толькі рускую мову. Так хочацца прыгожа размаўляць па-беларуску! Гэта праблема нас, усіх беларусаў. Настолькі выбілі нам сваё з галаваў, што сталі мы чымсьці савецкім. Мы над гэтым нават не задумваліся, не думалі, хто мы такія. І толькі пасля адраджэння з пачатку перабудовы вось такія пытанні ўзніклі ў такіх як я. Гэта быў пад'ём асабіста для мяне. У маёй свядомасці падняў гэта Зянон Пазьняк. Уся мая сям'я за гэта яму ўдзячная...

Пігулеўская Валянціна, старшыня Лідскай рэгіянальнай філіі Беларускага жаночага руху „Адраджэнне Айчыны", г. Ліда, вул. Чапаева 6-29. Тэл. (0-0375-156-1) 2-38-49. **(лук)**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Пачалі прыбіраць

Гадамі ў Орлі тратуарныя бардзюры пакрыты былі пяском і паро́слыя пустазеллем. Часам тратуары насупраць сваіх панадворкаў даводзілі да парадку жыхары, галоўным чынам пенсіянеры, якія на каленях і з ножыкам у руцэ выкалупвалі зелле спаміж тратуарных плітак. Толькі ў ліпені гэтага года, у выніку рашучага патрабавання аднаго з радных, гмінная адміністрацыя наняла прыватную фірму з Бельска-Падляшскага і пачала выконваць свой абавязак утрымання ў належным стане тратуараў у мястэчку.

— Тратуары былі так моцна запушчаны, што два дні нам спатрэбілася, каб вывезці сабраны пясок, — расказвае рабочы ў аранжавай камізэльцы. — Каб машына са шчоткамі магла прыбраць засохлую гразь, спачатку трэба было яе стругаць рыдлёўкамі.

— Калі б я ведаў, што арлянскія вуліцы так моцна запушчаны, то за прапанаваныя Гміннай управай 1000 зл. мы не прыбіралі б, — тлумачыць уладальнік фірмы. — Вуліцы трэба прыбіраць кожныя два месяцы і тады я буду згодны рабіць гэта вельмі танна, бо па 5 грошаў за квадратны метр.

Гміннае прыбіранне здзівіла людзей, якія гуртам высыпаліся на вуліцу паглядзець незвычайную ў Орлі з'яву. Калі чарговае прыбіранне — невядома. Аднак да поўнага парадку яшчэ далёка. Напрыклад, людзей хвалююць назапашаныя адной фірмай вялікія валуны, якія не змяшчаюцца на пляцы і стаяць проста на тратуары ды перашкаджаюць пешаходам.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*



*Прыбіранне вуліцы Свярчэўскага ў Орлі.*

# Пахавальны дом у Бельску




Ад чэрвеня гэтага года — па шматгадовых пратэстах жыхароў — у Бельску-Падляшскім працуе Пахавальны дом. У ім сем'і нябожчыкаў у годных умовах могуць трымаць целы сваіх блізкіх з моманту смерці да часу пахавання на могілках. Узнікненне такой установы было пільнай патрэбнасцю, якую асабліва моцна адчувалі жыхары шматпавярховых блёкаў, для якіх трыманне нябожчыка ў цеснай кватэры было вялікай цяжкасцю.

Аднак супраць узнікнення пахавальнага дома пратэставалі тыя жыхары горада, у суседстве якіх мела ўзнікнуць названая ўстанова. Гэтая дражлівая справа стала нават тэмай тэлевізійнага рэпартажу.

Калі ў мінулым годзе па вуліцы Дубяжынскай на тэрыторыі, якая прызначалася для продажу, была спроба частку зямлі адвесці пад пахавальны дом, сталі пратэставаць навакольныя жыхары і гэты праект быў закінуты. Былі таксама пратэсты, калі нехта хацеў адкрыць пахавальнае бюро побач шпіталя. Прадпрымальнік атрымаў дазвол толькі на продаж пахавальных аксесуараў. Пратэстуючыя спасылаліся на ўстарэлы закон ад 1959 года, які дазваляў адкрываць пахавальныя ўстановы толькі на тэрыторыі могільніка.

Каб выйсці з юрыдычнага тупіка, ініцыятыву ў гэтай справе пераняло Бельскае прадпрыемства камунальнай гаспадаркі, якое адкрыла Пахавальны дом у цэнтры горада ў будынку былой лазні. Знаходзіцца ён у бакавой вулачцы Казаноўскага, у незаметным месцы. Відаць, жыхары ўрэшце змірыліся з існаваннем неабходнай усё ж такі ўстановы.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Нявыгадны закон

З пачаткам студзеня г.г. Міністэрства фінансаў увяло аздараўляльны падатак для асоб, якія вядуць гаспадарчую дзейнасць (інакш кажучы: хто мае зарэгістраваную фірму). Месячная стаўка гэтага падатку складае суму 70 зл. Пра закон мала хто ведае. Вось якую размову я паслухаў у час падарожжа ў Люблін.

— Ты плаціш аздараўляльны падатак? — пытае чаромхаўскага прадпрымальніка яго калега.

— Навошта мне плаціць складчыну ЗУС, калі я пенсіянер, — адказвае прадпрымальнік.

— Я не пра ЗУС гавару, а аб аздараўляльным падатку, які абавязаны мы плаціць ад 1 студзеня па загадзе мінфіна, — паясняе яму сябрук.

Паміж калегамі завязалася дыскусія, якой я прыслухоўваўся.

— А ты як хутчэй едзь у Бельск, — раіць адзін аднаму. — Бо і так не пазбегнеш платы. Лішнія працэнты за нетэрміновыя ўплаты прыпісваць табе будуць. А сваё сцягнуць. Нават калі ліквідуеш фірму.

— Калі я афармляў дазвол у гміне на рэгістрацыю фатаграфічнага атэлье, — гаворыць адзін з субяседнікаў, — мне ніхто не намякаў пра закон аб аздараўляльным падатку. Я плачу падаходны падатак у фінансавай установе і лічу, што нічога нікому не вінаваты. Дык і не думаю плаціць лішнія грошы нікому, хто б то не быў. Фірму ліквідую, калі яны так да справы ставяцца...

У час далейшай размовы мае спадарожнікі дайшлі да вываду, што новы закон аб аздараўляльным падатку адмоўна паўплывае на развіццё дробнай вытворчасці. Месячная стаўка 70 зл. для іх сапраўды лішні выдатак.

**Уладзімір Сідарук**

## Свет на паліцы

Філіял Гміннай публічнай бібліятэкі ў Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны вядзе ўжо чатырнаццаты год Аліна Барташук. Бібліятэка налічвае 7100 кніг і каля двухсот чытачоў. Сёлета ў жніўні купілі 50 новых кніжак, у тым ліку дзевяць прыгодніцкіх для дзяцей, а рэшта — гэта мастацкая літаратура для дарослых. На паліцах сярод газет і часопісаў можна таксама знайсці ўсе нумары мясцовай газеты „Над Нараўкай", якую пры дапамозе тамашніх гмінных улад заснаваў і рэдагаваў на працягу двух гадоў Янка Целушэцкі.

У староляўкоўскай бібліятэцы пазычаюць кнігі да чытання жыхары Ляўкова і навакольных вёсак. Сярод дарослых найбольш чытаюць Мар'я Бірыцкая, Анна Ігнацюк, Мажэна Палецкая, Люцына Максімюк і Вольга Максімюк, а сярод дзяцей і моладзі — Юліта Вайкоўская, Ілона Карусэвіч і Юстына Садоўская.

**(гай)**

# Бізнес

Як гавораць, калі ў нашай дзяржаве развалілася камуна, усчалося вялікае беспрацоўе. Хто патраціў працу, а мае больш сарака гадоў, дык, мабыць, яе і не знойдзе. Калісьці і ўспамогу „куранёўку" плацілі цэлы год, а цяпер толькі шэсць месяцаў. Беспрацоўе бушуе, але і паявілася шмат бізнесменаў.

Адам пры камуне працаваў на адказнай пасадзе. Быў членам ПАРП. Калі пераняла ўладу салідарнікі, Адам кінуўся ў другі бок. Хутка займеў свой бізнес. Раскруціўся, мае цяпер будаўнічае прадпрыемства. Працуе ў яго некалькі чалавек. Кажуць, жывецца яму някепска.

Шмат хто стаў выязджаць на Захад, там працы шукаць. Нават вялікія вучоныя там за падмятайлаў. Таксама і ў Савецкім Саюзе, калі ён разваліўся, пачалося вялікае беспрацоўе, людзі з-за ўсходняй мяжы сталі шукаць працы ў нас. Кажуць: „У вас цяпер Амерыка". І вось прыехаў адзін грамадзянін з усходу, Мікола, каб тут зарабіць. Працаваў некалькі дзён пры збіранні трускалак, пасля пайшоў да пана Адама, рабіць за 2,50 злотаў у гадзіну, без харчоў. Працаваў сумленна, задаволены, што зарабляе. Калі была акордная праца — пагружалі будаўнічы матэрыял на машыны — Адам сваім рабочым плаціў па 20 злотаў, а Мікалаю — па 10 за гадзіну. Мікалай рабіў у Адама шэсць тыдняў, зарабіў 720 злотаў, за гэта купіў долары і павёз жонцы і пецярым дзецям. Плануе прыехаць сюды зноў. Трэба сказаць, што Мікалай — добры працаўнік, не курыць, не п'е, ды і не вядома за чым жыў, бо эканоміў кожны грош, каб завезці дадому. Як ні стараўся, працаваў лепш за іншых, але і так яго пакрыўдзілі.

Вось якія ў нас бізнесмены — прымаюць людзей з Усходу, плацяць ім паўстаўкі або і менш, не страхуюць, а самі нажываюцца. Забыўся вол, як цяляткам быў. Але такія як Адам, ці камуна, ці іншы лад — умеюць круціцца!

**Мікалай Лук'янюк**

## Парк прыгажэе

Сёлета ў парку ў Міхалове выраўналі ўсю плошчу ды пасеялі траву. Цяпер на алейках кладуць тратуарныя пліты. Амаль усе работы завершацца да канца кастрычніка. Восенню побач сцяжынак пасадзяць кустарнікі і іншыя дэкаратыўныя расліны. Абнаўленне міхалоўскага парка будзе поўнасцю закончана ў наступным годзе. **(гай)**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Ніўка


*Рэклама аўтобуснага парку ў Ваўкавыску (на абеліску — з другога боку — назвапыя прозвішчы шафёраў аўтобуса).* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Фрашкі пра нашых

## Пшэдмужэ

Стаяць вось дзве пані сярэдняга ўзросту,
Усе ў манікюрах і вечнай завіўцы,
І, пані кохана, страхнуць папяроску,
Агароджу жывую скубнуць па каліўцы,
Пад блёкам расце што квола і вяла.
На мінутку, са склепу, ідучы дадому
Суседкі аб іншых сабе размаўлялі.
Аб „гэтых брудасах" з takiego садому,
Што пруцца у Польшчу, у тую Еўропу,
А куча такіх пасялілася ў блёку.
Якія з іх людзі, адны асталопы,
Бо „брудас" з усходу не мае мець клёку.
Кабета, мо маці, дзяцей трое, швагер,
Напэўна, распуснікі, мафія, зладзеі!
„Такіх я усіх зачыніла б у лагер!"
„На мяжу — і цурык! А то тут паселі!"
„А **one**, kochana, choć **umią** po polsku?"
Ой, што гэта будзе, о матко ты боска!

**Вандал АРЛЯНСКІ**

# Пра палігамію

Прэзідэнт Інгушэціі Руслан Аушаў выступіў з прапановай узаконіць у Расіі мнагажонства. Магло б нам тут здавацца што гэта не наша справа, аднак трэба *на всякий пожарный случай* прыблізіцца да гэтай экзатычнай нам з'явы з вельмі практычных прадпасылак. Ініцыятыва Аушава можа атрымаць адабрэнне старшай сястры нашай, а гэта не фантастыка, бо ў Ельцынавай *водчыне* ад двух гадоў мнагажонства, хаця яшчэ юрыдычна не дазволена, аднак ужо не падлягае пакаранню. Гэтая форма сямейнасці, якую мы асацыюем з мусульманскімі краінамі, у Расію прабіваецца не толькі дзякуючы актыўнасці каўказскіх і туркестанскіх фундаменталістаў, але таксама і таму, што ў Расіі пражывае каля 10 мільёнаў адзінокіх жанчын.

Калі ў Расіі палігамія стане законным фактам, тады таксама і ў Беларусі славуты інтэгратар не астанецца раўнадушным да сямейнага інтэгранцтва. І калі пасля да нас у госці наведаецца нейкі родны дзядзька, які дагэтуль прыязджаў з адной дзядзінай, тады можа ён прывезці з сабою гарэмік з некалькімі незнаёмымі дагэтуль нам *женщинами*; цётка таксама можа парадаваць нас візітам сваіх новых *сосупруг*. А практычны вывад з таго такі, што трэба рыхтаваць дзядзінам больш пасцелі, а мо нават пабудаваць нейкі адмысловы харомік для таго гарэміка. Паколькі наш урад маркуе з новага года адмяніць цяперашнія будаўнічыя льготы, тады пра будову хароміка дзядзькаваму гарэму трэба думаць неадкладна, а то пасля прыйдзецца пераплачваць.

Найсамперш трэба высвятліць, якой велічыні мае быць тое збудаванне, каб змясціла цэлую сям'ю. Калі наш дзядзька з'яўляецца епіскапам, тады вялікага клопату з ім не будзе, бо згодна першаму пасланню апостала Паўла Цімафею (3,2) епіскап павінен мець адну жонку. Але калі наш дзядзька з'яўляецца дыспетчарам калгаснай бензакалонкі, тады ў яго можа быць цалкам прыстойны запасік петразайчыкаў і следам за гэтым, узорам уласнікаў петрадолараў, неблагі гарэм. Напрыклад, найбагацейшы з іх шэйх Брунеі мае толькі дзве жонкі. Але ў шэйхавым гарэме не адны толькі дзве жонкі, у яго яшчэ там чатырыста наложніц! Гэта на сотню больш чым меў мудры цар Саламон. Затое ж у цара Саламона было аж семсот жонак і такім чынам увесь яго гарэм налічваў кругленькую тысячу зямных гурый! І калі б наш дзядзька захацеў запісацца ў кнігу рэкордаў Гінеса, тады яму трэба было б ставіць цэлы гарадок а мо і яшчэ больш. Бо ж трэба ўлічыць, што каб мець нейкую арыентацыю ў такой масе жонак і няжонак, нашаму дзядзьку трэба было б вазіць яшчэ каля сотні рахункаводак, каля сотні кухарак, каля сотні прачак і яшчэ процьму ўсялякіх краўчых, манікюрак, педыкюрак, цырульніц і г.д., пра лакі, крэмы і пудры не згадваючы. І да таго некалькі тысяч дзяцей і, калі жонкі нарадзіліся ў тысячажаночных гарэмах, мільён цешчаў!

Каб ім усім пабудаваць прыстойны харом, трэба было б хадайнічаць пра субвенцыю з Еўрасаюза або браць крэдыт у Міжнародным валютным фондзе. Але не хваліўмася, не трэба загадзя будаваць новых мястэчак на нашай усходняй сцяне, бо мо таможнікі дазволяць нашаму дзядзьку перавозіць цераз мяжу толькі абмежаваную колькасць жонак, так як цяпер гарэлку ці папяросы; напр. калі едзе на дзесяць дзён, тады дзесяць жонак, а такую колькасць то можна пераначаваць і на сене ў адрыне.

**Адам Маньяк**



Мал. Алеся СУРАВА

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 (1) | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 (4) | |
| | 10 | | (3) | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| (2) | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | (5) | |

**Гарызантальна:** 1. махінатар, 3. моцнае вінаграднае віно, 5. шкілет, 7. кармавая расліна сямейства бабовых, 9. пляцоўка Наталлі Зверавай, 10. соус з жаўткоў з алеем і вострымі прыправамі, 11. шахматная фігура для дыяганальнага руху, 12. дванаццатая частка фута, 14. драбяза, 16. недакурак, 17. прылада для капання.

**Вертыкальна:** 1. дзяржава з Зомбай, 2. яравая пшаніца, 3. сігнальная вежа на беразе мора, якая паказвае шлях караблям, 4. пісьмовы даклад начальству, 6. першы ў парадзе, 8. штучнае валакно высокай трываласці, 9. металічны прадмет у форме вобада, абруча, акружнасці, 11. сляпы чалавек, 13. адсутнасць жадання працаваць, 14. уласцівасць ежы, якая адчуваецца языком, 15. не душа. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 31 нумара**

**Гарызантальна:** абутак, лунацік, летнік, варонка, дзівак, кантар, арапнік, сервіз, Аракажу, папрок.

**Вертыкальна:** плявок, Кнорын, сценка, аклад, Уітні, Авіла, званар, вандал, кактус, амега, тавар, разак.

Рашэнне: **Янка Журба**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Перад шлюбам сяброўка павучае маладуху:

— Каб пражыць незабыўную пасляшлюбную ноч, перад кладкаю ў ложак дай мужу з'есці дванаццаць вустрыц; пабачыш, будзе цудоўна!

На другі дзень сяброўка спатыкае спахмурнелую маладуху:

— Ну, і як было?

— З'еў усе дванаццаць, але спрацавалі толькі восем.

* * *

— Прашу распранацца, — загадвае мастак кандыдатцы на мадэль. — Мушу прыглянуцца вашай фігуры.

— Спярша вы мне пакажыце свае карціны; мушу пабачыць, ці варта распранацца.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Колькі дзён адпачынку мела ты ў мінулым годзе?

— Два месяцы.

— Гэта немагчыма... Чаму так многа?

— Спярша я ўзяла месяц водпуску, а пасля на адпачынак падаўся мой загадчык.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Што ты думаеш пра сапраўдную любоў: гарачую і страсную?

— Нічога; я яшчэ не здрадзіла мужу.

* * *

Два пенсіянеры гутараць на лаваччы.

— Хіба ажанюся з Ганнаю, — кажа адзін.

— У тваім узросце? Навошта?

— Маем такую самую дыету.

* * *

— Каця, ці я буду першым мужчынам, які спаў з табою?

— Калі заснеш, тады так.

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014